

# БАЙРАМ

**Квартальнік Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль - Кітаб"**

---

**1999 ВЫПУСК 2**

БАЙРАМ. ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ. / Квартальнік Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, вып. № 2(34) – Мн., 1999, - 84 стар.

Квартальнік "Байрам" – друкаванае выданне Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб". Выходзіць з 1991 года. У ім змяшчаецца інфармацыя аб жыцці і дзейнасці мусульманскіх абшчын на Беларусі, аб асновах Іслама і правах мусульман, гісторыі беларускіх татар і важнейшых падзеях у мусульманскіх краінах. Выходзіць чатыры разы на год. Разлічана на мусульман Беларусі, навукоўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй, культурай, мусульманскай рэлігіяй беларускіх татар.

Адказны за выпуск **Ібрагім Канапацкі**

Рэдактары **Ісмаіл Александровіч, Разалія Александровіч, Яўген Гучок, Ібрагім Канапацкі, Дзмітры Чымбаевіч, Таццяна Якубоўская**

Набор **Дзмітры Чымбаевіч**

بسم الله الرّحمن الرّحيم

## *У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!*

### *Ассаляму алейкум, спадары і спадарыні, суплямennікі-татары, усе мусульмане!*

Напрыканцы сакавіка мусульмане Беларусі адзначалі найвялікшае свята, свята ахвярапрынашэння – Курбан-Байрам альбо па-арабску Ід аль-Адха. Галоўнай падзеяй свята Курбан-Байрам стаў Саляд аль-Ід (святочны намаз), які адбыўся ў сталічным палацы прафсаюзаў. Праводзіў набажэнства імам мінскай мячэці і член муфціята Аднан АБДУЛЬДЖАББАР. Пасля заканчэння Святочнага намаза са словамі віншавання звярнуліся да мусульман муфтэй мусульман Беларусі Ісмаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ і кіраўнік мусульманскай абшчыны г. Мінска Ібрагім КАНАПАЦКІ. Былі абвешчаны таксама віншавальныя лісты з нагоды свята Курбан-Байрам, дасланыя мусульманам Беларусі ад адзінаверцаў з Расіі, Украіны, Крыма і мусульманскіх абшчын Беларусі.

28 сакавіка каля 300 мусульман і мусульманак г. Мінска здзейснілі падарожжа ў г.п. Смілавічы, дзе прымалі ўдзел у мусульманскім абрадзе ахвярапрынашэння. Ля сценаў новай мячэці ў памяць аб богаўгодным учынку прарока Ібрагіма *(мір яму!)* у ахвяру былі прынесены 5 курбаноў.

29 сакавіка ў Палацы ветэранаў адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны святу Ід аль-Адха. Ён быў арганізаваны муфтэятам Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь сумесна са сталічнай абшчынай і асацыяцыяй мусульманскіх студэнтаў. На вечары прысутнічалі шмат паважаных гасцей: Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турцыі пані Шуле СОЙСАЛ і дарадчык Пасольства пан Хаккан КЪЫВАНЧ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Таджыкістана Алім Сабіравіч РАХІМАЎ, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Уладзіслаў МОНТВІДАС, вядучы спецыяліст Міністэрства культуры Анатоль БАБІЦКІ, вядучы спецыяліст сектара рэлігій і нацыянальнасцей Мінгарвыканкама

Валянціна Булоўкіна, прарэктар БДПА, прафесар А. СКОЙБЕДА, дэканы Акадэміі Г. ПАЛЯНСКАЯ і У. ЗВЕРАЎ, выкладчыкі медыцынскага інстытута. У зале знаходзіліся таксама кіраўнікі азербайджанскага таварыства "Габустан" – Націк БАГІРАЎ і Закір МАМЕДАЎ, прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Абу-Бекір ШАБАНОВІЧ, прэзідэнт Міжнароднага фонда духоўнага развіцця татар "Чышма" Тран БАГДАНАЎ, госці-мусульмане з г. Узды на чале з кіраўніком абшчыны М.К. КАНАПАЦКІМ.

Ва ўрачыстай частцы вечара выступілі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турцыі пані Шуле СОЙСАЛ, муфтэй мусульман Беларусі Ісмаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ, імам мінскай мячэці Аднан АБДУЛЬ-ДЖАББАР, старшыня мусульманскай абшчыны г. Мінска Ібрагім КАНАПАЦКІ.

Завяршыўся вечар святочным канцэртам, які ўдала падрыхтавалі і арганізавалі мусульманскія студэнты з БДПА і Мінскага медыцынскага інстытута.

У гэтыя святочныя дні было арганізавана ахвярапрынашэнне і ў іншых абшчынах: у г.Ашмяны, у г.п. Іўе. Рэспубліканскім фондам "Замзам" была праведзена дабрачынная акцыя раздачы мяса ахвяраваных жывёл. Яна ахапіла мусульман Мінска, Слоніма, Віцебска. У горадзе Віцебску, у актавай зале Беларускага медыцынскага універсітэта быў арганізаваны студэнтамі з мусульманскіх краін невялікі канцэрт.

Адметнай рысай свята ў гэтым годзе з'явілася шырокамасштабная дабрачынная акцыя, арганізаваная Пасольствам Турцыі ў Рэспубліцы Беларусь, якая ахапіла 15 абшчын татар-мусульман *(563 мусульманскія сям'і)*. Мусульмане Мінска, Гродна, Навагрудка, Ліды, Міра, Узды, Докшыц, Мядзеля, Глыбокага, Слоніма, Клецка, Ляхавіч і Смілавіч атрымалі дабрачынную дапамогу мясам курбаноў, што дазволіла ім у радасці правесці гэтае свята.

Хвала Аллагу, Які даў нам усім гэтае свята і просім Усявышняга, каб усе мусульмане дачакаліся новага, шчаслівага свята! Мір Вам, міласць Усявышняга Аллага і Яго блаславенне!

Пішыце нам на адрас:

220131, г. Мінск, паштовая скрынка 131, рэдакцыя часопіса-квартальніка "Байрам".

# КУР'АН

## Сура дванаццатая — Йусуф

### У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!

**1 (1).** Аліф лям ра. Гэта – знаменні кнігі яснай.

**2 (2).** Мы паслалі яе ў выглядзе арабскага Карана, – можа быць, вы зразумееце!

**3 (3).** Мы раскажам табе праз апавяданне, адкрыўшы табе гэты Каран, хаця раней і быў ты з ліку нядбалых.

**4 (4).** Вось сказаў Йусуф свайму бацьку: "Бацька мой, бачыў я адзінаццаць зорак, і сонца, і месяц, – бачыў іх, як яны мне пакланяліся".

**5 (5).** Сказаў ён: **"О сынок, не расказвай свайго прывіду тваім братам, яны задумаюць супраць цябе хітрасць. Бо сатана для чалавека відавочны вораг!**

**6 (6). І так абярэ цябе твой Гасподзь, і навучыць цябе тлумачэнню падзей, і завершыць Сваю міласць над табой і над родам Йа'куба, як завяршыў яе раней над тваімі бацькамі, Ібрахімам і Ісхакам. Сапраўды, Гасподзь твой – ведаючы, мудры!"**

**7 (7).** Былі ў Йусуфа і яго братоў знаменні для тых, хто пытаецца.

**8 (8).** Вось сказалі яны: **"Вядома, Йусуф і брат яго мілейшыя нашаму бацьку, чым мы, дык мы – зборышча. Сапраўды, бацька наш відавочна памыляецца!"**

**9 (9). "Забіце Йусуфа ці закіньце яго ў далёкую краіну; тады звернецца да вас твар вашага бацькі, і будзеце вы пасля гэтага людзьмі праведнымі".**

**10 (10).** Сказаў адзін з іх: "Не забівайце Йусуфа, а кіньце яго ў глыбіню калодзежа, – падыме яго хто-небудзь з тых, што праходзяць, калі вы гэта вырашылі зрабіць".

**11 (11).** Сказалі яны: **"О бацька наш! Чаму ты не давяраеш нам Йусуфа, мы ж яму шчырыя дарадцы!**

**12 (12). Пашлі яго з намі заўтра, няхай ён мае асалоду і пагуляе, мы ж яго абаронім".**

**13 (13). Ён сказаў: "Засмуціць мяне, калі вы з ім пойдзеце, і баюся я, што з'есь яго воўк, калі вы будзеце неахайны з ім".**

**14 (14).** Яны сказалі: **"Калі з'есь яго воўк, калі нас натоўп, тады мы будзем мець страту".**

**15 (15).** І потым яны пайшлі з ім і згадзіліся змясціць яго ў глыбіні калодзежа; Мы ж унушылі яму: **"Ты паведаміш ім пра гэту іх справу, калі яны не будуць ведаць".**

قال يا بني لا تقصص رءياك على إخوتك فيكيدوا لك كيدا
إن الشيطن للإنسان عدو مبين (5) وكذلك يجتبيك
ربك ويعلمك من تأويل الأحاديث ويتم نعمته عليك وعلى
ءال يعقوب كما أتمها على أبويك من قبل إبراهيم وإسحق
إن ربك عليم حكيم (6) لقد كان في يوسف وإخوته
ءايات للسائلين (7) إذ قالوا ليوسف وأخوه أحب إلى أبينا منا
ونحن عصبة إن أبانا لفي ضلل مبين (8) اقتلوا يوسف أو اطرحوه
أرضا يخل لكم وجه أبيكم وتكونوا من بعده قوما
صلحين (9) * قال قائل منهم لا تقتلوا يوسف وألقوه
في غيابات الجب يلتقطه بعض السيارة إن كنتم فعلين (10)
قالوا يا أبانا ما لك لا تأمنا على يوسف وإنا له
لنصحون (11) أرسله معنا غدا يرتع ويلعب وإنا له
لحفظون (12) قال إني ليحزنني أن تذهبوا به وأخاف
أن يأكله الذئب وأنتم عنه غفلون (13) قالوا
لئن أكله الذئب ونحن عصبة إنا إذا لخسرون (14)

فلما ذهبوا

**16 (16).** І прыйшлі яны да свайго бацькі вечарам з плачам.

**17 (17).** Яны сказалі: **"О бацька наш! Мы пусціліся наперагонкі і пакінулі Йусуфа ля нашых рэчаў, і з'еў яго воўк; але ты не паверыш нам, калі б мы нават і гаварылі праўду".**

**18 (18).** І прыйшлі яны з ілжывай крывёю на кашулі. Сказаў ён: **"Так, упрыгожылі вам вашы душы справу, але — цярпенне — цудоўнае ... У Аллага трэба шукаць дапамогі ў тым, што вы распісваеце".**

**19 (19).** І прыйшлі падарожныя і паслалі свайго хадака; той апусціў вядро і сказаў: **"О радасць, гэта — юнак. І схавалі яны яго, як тавар, а Аллаг ведаў, што яны робяць".**

**20 (20).** І прадалі яны яго за малую цану адлічаных дырхемаў. І былі яны памяркоўныя ў гэтым.

**21 (21).** І сказаў той, каторы купіў яго з Егіпта, сваёй жонцы: **"Добра змясці яго, — можа быць, ён дапаможа нам, ці мы возьмем яго за сына".** І так Мы сцвердзілі Йусуфа ў гэтай зямлі і каб навучыць яго тлумачэнню падзей. Аллаг пераможна завяршае Сваю справу, але вялікая колькасць людзей не ведаюць!

**22 (22).** І калі дайшоў ён да сталасці, ахвяравалі Мы яму мудрасць і веды; і так дзячым Мы тым, хто дабрэе!

**23 (23).** І спакушала яго тая, у хаце каторай ён быў, і зачыніла дзверы і сказала: **"Хадзі сюды".** Сказаў ён: **"Уратуй Аллаг! Бо Гасподзь мой цудоўным зрабіў маё знаходжане. Сапраўды, не будуць шчаслівымі неправедныя!"**

**24 (24).** І думала яна аб ім, і думаў ён пра яе, калі б ён не ўбачыў доказаў свайго Госпада. Так,— каб адхіліць ад яго зло і мярзоту. Сапраўды, ён — з Нашых рабоў шчырых!

**25 (25).** І памкнуліся яны навперадкі да дзвярэй, і яна разырвала яго кашулю ззаду і сустрэлі яны яе гаспадзіна каля дзвярэй. Сказала яна: **"Якая ўзнагарода таму, хто жадаў зла тваёй сям'і, калі не зняволіць яго ў турму, ці — пакаранне мукаў!"**

**26 (26).** Ён сказаў: **"Яна спакушала мяне";**— і засведчыў сведка з яе сям'і: **"Калі кашуля яго разарвана спераду, то — яе праўда, а ён — ілжэц.**

**27 (27). Калі ж кашуля яго разарвана ззаду, дык яна схлусіла, а яго — праўда".**

**28 (28).** І калі ён убачыў кашулю яго разарванай ззаду, то сказаў: **"Гэта — з вашых падкопаў,— сапраўды падкопы вашы вялікія!"**

**29 (29). "Йусуф, адвярніся ад гэтага, а ты прасі прабачэння за свой грэх. Бо ты была з грахом".**

**30 (30).** І сказалі жанчыны ў горадзе: **"Жонка вяльможы спакушае юнака. Ён напоўніў яе каханнем. Мы бачым, што яна — у відавочнай аблудзе".**

**31 (31).** Калі яна пачула пра іх хітрыкі, дык паслала да іх і прыгатавала ім месцы для ляжання і дала кожнай з іх нож і сказала:

**"Выйдзі да іх!"** Калі ж яны ўбачылі яго, то ўзвялічвалі яго, і парэзалі сабе рукі, і сказалі: **"Далёка Аллаг! Гэта – не чалавек, гэта толькі высакародны анёл".**

**32 (32).** Яна сказала: **"Вось вам той, з-за каго вы мяне лаялі. Я яго спакушала, але ён застаўся цвёрдым. Калі ён не зробіць тое, што я яму загадваю, ён будзе зняволены ў турму і будзе ў ліку нікчэмных".**

**33 (33).** Ён сказаў: **"Гасподзь мой! Турма мне мілей чым тое, да чаго мяне заклікаюць. Калі Ты не адвядзеш ад мяне іх падкопаў, я схілюся да іх і апынуся з ліку неразумных".**

**34 (34).** І адказаў яму яго Гасподзь і адвярнуў ад яго іх падкопы. Сапраўды, Ён – чуе і бачыць!

**35 (35).** Потым надумаліся яны, пасля таго як яны бачылі знаменні, абавязкова зняволіць яго на пэўны час.

**36 (36).** І ўвайшлі разам з ім у турму два юнакі. Адзін з іх сказаў: **"Вось бачу я сябе, як я нясу на галаве хлеб, які спажываюць птушкі... Паведай нам тлумачэнне гэтага. Сапраўды, мы бачым, што ты – з ліку, якія дзейнічаюць добра".**

**37 (37).** Ён сказаў: **"Не прыйдзе да вас харчаванне, якое вам даецца, без таго, каб я вам не паведаміў тлумачэнне гэтага, перш чым яно прыйдзе да вас. Гэта для вас – тое, чаму навучыў мяне мой Гасподзь. Я пакінуў рэлігію людзей, якія не вераць у Аллага, і будучае жыццё яны адмаўляюць.**

**38 (38). Я пайшоў за рэлігіяй бацькоў маіх – Ібрахіма, Ісхака і Йа'куба. Нам не належыць далучаць да Аллага нічога. Гэта – міласць Аллага нам і людзям, але большая частка людзей не ўдзячныя.**

**39 (39). О сябры па турме! Ці розныя панове лепшыя ці Аллаг, Які – адзіны і магутны?**

**40 (40). Апрача Яго вы пакланяецеся толькі імёнам, якія назвалі вы і вашы бацькі: Аллаг не пасылаў з імі ніякай улады. Рашэнне належыць толькі Аллагу. Ён загадаў, каб вы пакланяліся толькі Яму. Гэта – правая вера, але большая частка людзей не ведае.**

**41 (41). О сябры па турме! Адзін з вас будзе паіць свайго гаспадара віном, а другі будзе ўкрыжаваны, і птушкі будуць есці ў яго з галавы. Вырашана справа, пра якую вы пытаецеся!"**

**42 (42).** І сказаў ён таму з іх, пра якога думаў, што ён выратуецца: **"Памяні мяне ў твайго гаспадара!"** Але прымусіў яго сатана забыць нагадаць свайму гаспадару; і прабыў ён у турме некалькі гадоў.

**43 (43).** І сказаў цар: **"Вось, бачу я сем кароў тлустых, з'ядаюць іх сем худых; і сем каласоў зялёных і іншых – сухіх. О панства! Дайце рашэнне аб маім бачанні, калі вы можаце тлумачыць прывіды!"**

**44 (44).** Яны сказалі: **"Пучкі сноў! Мы не дасведчаны ў тлумачэнні сноў".**

**45 (45).** І сказаў той з двух, які выратаваўся, успомніўшы пасля перыяду: **"Я паведамлю вам тлумачэнне гэтага, пашліце мяне!"**

**46 (46).** **"Йусуф! О праведнік! дай нам рашэнне пра сем кароў тлустых, якіх з'ядаюць сем кароў худых, і сем каласоў зялёных і іншых – сухіх, можа быць, я вярнуся да людзей, можа быць, яны пазнаюць!"**

**47 (47).** Сказаў ён: **"Будзеце вы сеяць сем гадоў, працуючы па звычаю. Што вы сажнеце, пакідайце тое ў коласе, апрача нямногага, што вы з'ядаеце.**

**48 (48).** **Потым надыдуць пасля гэтага сем цяжкіх гадоў, якія з'ядуць тое, што вы падрыхтавалі для іх, апрача нямногага, што вы захаваеце.**

**49 (49).** **Потым надыдзе пасля гэтага год, калі людзям будзе пасланы дождж і калі яны будуць выціскаць".**

**50 (50).** І сказаў цар: **"Прывядзіце да мяне яго!"** Калі да яго прыйшоў пасланец, ён сказаў: **"Вярніся да твайго гаспадара і запытай яго: "Што было з жанчынамі, якія парэзалі сабе рукі?" – Сапраўды, мой Гасподзь усё ведае ў іх падкопах!"**

**51 (51).** Ён сказаў: **"У чым ваша справа, калі вы спакушалі Йусуфа?"** Яны сказалі: **"Барані божа! Мы не ведаем за ім нічога благога".** Жонка вяльможы сказала: **"Цяпер высвецілася праўда, я спакушала яго, а ён – з ліку праўдзівых!" –**

**52 (52).** **"Гэта – каб ён даведаўся, што я не ашукаў яго ўпотай і што Аллаг не вядзе прамым шляхам падкопы здраднікаў.**

**53 (53).** **Я не апраўдваю сваю душу, – бо душа абуджае да зла, калі толькі не злітуецца Гасподзь мой. Сапраўды, Гасподзь мой даруе і міласэрны Ён!"**

**54 (54).** І сказаў цар: **"Прывядзіце яго да мяне! Я вазьму яго для сябе".** І калі ён загаварыў з ім, то сказаў: **"Ты ж сёння ў нас магутны, даверaны".**

Пераклаў **Яўген Гучок**



# КУРБАН-БАЙРАМ

*(28 сакавіка 1999 г. – Свята Ахвярапрынашэння)*

Канешне, кожны, хто не ведае, зверне сваю ўвагу на гэтыя незвычайныя ў беларускім асяродку словы, як курбан і байрам. І тым больш, аб'яднаных паміж сабой. Курбан – гэта ў перакладзе з цюркскага – ахвяра. Звычайна яна можна быць баранам або авечкай, быком або каровай, вярблюдам або вярблюдзіцай... А байрам – гэта свята!

Курбан-Байрам – гэта святое Свята ахвярапрынашэння. У арабаў яно завецца Ід аль-курбан, ці Ід аль-Адха. У мусульман іншых народаў яно яшчэ мае найменні – Ід аль-кабір *(у перакладзе з арабскага – велізарнае свята)*, Эйдзе корбан, Бакр-ід ...

Свята ахвярапрынашэння адзначаецца цераз 70 дзён пасля заканчэння Ураза-Байрама *(трыццацідзённага паста ў месяц рамадан (Рамазан)*. Па мусульманскаму месячнаму календару яно пачынаецца 10-га чысла месяца Зуль-Хіджжа. У 1999 г. яно прыходзіцца на 28 сакавіка.

Курбан-Байрам працягваецца тры-чатыры дні, беларускія татары-мусульмане ад старажытных гадоў святкуюць яго чатыры дні. І яшчэ, свята ахвярапрынашэння супадае па тэрміну з днём завяршэння паломніцтва *(пілігрымства)* у Каабу – святы храм у Мецы.

Як сведчыць кніга "Мусульманские праздники" *(даецца ў перакладзе)*: **"Міфалогія гэтага свята ідзе ад вядомага біблейскага сюжэта аб спробе прынясення патрыярхам Аўраамам свайго сына Ісаака ў ахвяру Богу** *(гл.: Біблія, кніга "Быціе", главы 21 і 22)*. **Аднак на месца біблейскага Ісаака мусульманская традыцыя ставіцьІсмаіла, лічачы яго старшым сынам, а Ісаак, па мусульманскім уяўленням, – другі сын Аўраама** *(па-арабску Ібрахіма)*.

**Мусульманскае паданне гаворыць, што першая жонка Ібрахіма – Сара – была бяздзетная і Ібрахім з яе згоды ўзяў сабе ў жонкі рабыню егіпцянку Хаджар** *(у Біблії – Агар)*. **Але не было паміж жонкамі міру і згоды, а калі разлады зайшлі занадта далёка, Ібрахім па патрабаванню Сары ўдаліў Хаджар у пустыню паміж Меккай і Іерусалімам** *(пар.: "Быціе", 16 глава)*. **Неўзабаве ў пустыні наложніца нарадзіла сына, але мучылася без вады, пакутвала і немаўля. Хаджар, завярнуўшы яго ў адзенне, пайшла шукаць крыніцу. Раптам пачула яна голас, загучаўшы паміж пагоркаў Сафа і Марва, які мовіў: "Вось вада!" Тады кінулася Хаджар да пагорка Марва, але там вады не была. Сем разоў прайшла яна паміж пагоркамі, але безвынікова. І ўскрыкнула яна ў адчаі: "Істамі, я іл, іл!", "Пачуй (мяне) Гасподзь, Гасподзь!" Адсюль і атрымалася імя Ісмаіла (у Біблії Ізмаіл). Вярнуўшыся на плач Ісмаіла, Хаджар убачыла побач з хлопчыкам чыстую крыніцу. Так было адзначана па волі Гаспода гэтае дзіця.**

**Калі ж Ісмаіл вырас, Ібрахім атрымаў у сне загад Усявышняга прынясці сына ў ахвяру. Ібрахім быў чалавекам богабаязным і не мог не выканаць волю Аллага. Аднак да Ісмаіла ў чалавечым абліччы з'явіўся д'ябал (Ібліс) і ўгаворваў яго не падпарадкоўвацца намеру бацькі: Ісмаіл не пагадзіўся. І накіраваліся бацька з сынам да месца ахвярапрынашэння, прадпісанага Богам. Калі ж яны дайшлі да яго, Ібліс зноўку з'явіўся Ісмаілу і яшчэ раз угаворваў яго да непадпарадкоўвання. Тады прызнаўся Ісмаіл бацьку свайму, што прыйшоў да яго нейкі чалавек і спакушаў яго. Ібрахім жа зразумеў, што гэта д'ябал выпрабоўваў юнака і загадаў кінуць у Ібліса камень.**

**Потым распрасцёр Ібрахім руку сваю і ўзяў нож, каб закалоць сына свайго. Ён ужо датыкнуўся было горла Ісмаіла, як Аллаг прамовіў Джабраілу** *(у Біблії Гаўрыілу)*: **"Спяшайся хутчэй да раба Майго і перадай яму, каб не падымаў ён рукі на юнака свайго і не рабіў над ім нічога, так як зараз Я ведаю, што Ібрахім баіцца Мяне і не пашкадаваў у імя Маё сына свайго адзінага". Адным узмахам крылляў Джабраіл маланкава**

**дасягнуў зямлі і затупіў нож, перш чым той датыкнуўся горла Ісмаіла. Тады ўзвёў Ібрахім свае вочы і ўбачыў, што Джабраіл нясе для ахвяры авечку і ўсклікнуў ад радасці: "Няма Бога, акрамя Аллага! Вялік Аллаг!" А Гасподзь за тое, што Ібрахім вытрымаў гэты іспыт, блаславіў яго і пакляўся прымнажыць семя яго як зоркі нябесныя і як пясок на беразе мора."**

Згодна сярэдневекавым арабскім генеалогіям, ад Ісмаіла пайшлі ўсе паўночнаарабскія плямёны, а ад другога нашчадка Ібрахіма Кахтана – арабы, жывучыя на поўдні.

Сам жа Ібрахім у Кур'ане і мусульманскім паданні *(Сунне)* фігуруе як продак арабаў і яўрэяў. Для мусульман ён ханіф – паслядоўны адзінабожнік, халілуллах – сябра Аллага, прарок і адданы прапаведнік адзінага і лучнага Аллага, духоўны продак Мухаммеда і яго абшчыны.

Такім чынам, Курбан-Байрам *(або Ід аль-Адха)* сімвалізуе для мусульман сапраўднасць вучэння Мухаммеда, пасланага яму ў Адкрыцці, а таксама ўсёмагутнасць і міласэрнасць Усявышняга Творцы.

Хрысціянска-іўдзейская міфалогія, па-свойму інтэрпрэтаваная ў Ісламе, паслужыла з'яўленню спецыфічных для гэтай рэлігіі абрадаў і рытуалаў. Свята ахвярапрынашэння непарыўна звязана з адным з "стаўпоў Іслама" – паломніцтвам у Мекку – горад, у якім, а таксама ў яго наваколлях, адбываліся ўпамянутыя падзеі, горад, дзе нарадзіўся і прапаведваў Мухаммед.

Асноўнай святыней у Мецы з'яўляецца Кааба – будынак з шэрага каменя ў форме куба. Знадворку Кааба пакрыта чорнай парчой *(кісвай)*, якая штогодна вырабляецца ў Егіпце і дастаўляецца караванам у святы горад. Незадоўга да прыбыцця паломнікаў чорны покрыў замяняецца белым, але ў канцы месяца паломніцтва Каабу ахінаюць новай чорнай кісвай, а старую разразаюць на кавалкі і распрадаюць як рэліквіі. Знутры Каабы абсталяванне сціплае: тры драўляныя калоны падтрымліваюць дах; ніякай мэблі; мноства свяцільняў і надпісаў; падлога вымашчана мармуровымі плітамі. Ва ўсходні вугал будынка ўманціраваны заключаны ў срэбную аблямоўку "чорны камень" *(па-арабску – аль-хаджар аль-асвад)* – галоўны аб'ект пакланення ў Каабе.

Згодна мусульманскаму паданню, "чорны камень" уяўляў раней белы яхант, які пачарнеў з-за грахоўнасці людзей. Аллаг дараваў яго Адаму. Той пабудаваў над ім першае збудаванне. Пасля патопу Кааба разбурылася. Стары фундамент будынка знайшлі Ібрахім і Ісмаіл, якія і збудавалі яго зноў.

Закончыўшы адбудаванне Каабы, Ібрахім з Ісмаілам паводле ўказання архангела Джабраіла абыйшлі вакол яго сем разоў, двойчы пакланіліся, маліліся, затым сем разоў прабеглі паміж пагоркамі Сафа і Марва і ў даліне Міна кідалі камяні ў Ібліса. Даведаўшыся ад Джабраіла ўсе цырымоніі хаджа, Ібрахім потым атрымаў

загад ад Аллага паклікаць усіх людзей на пакланенне да Каабы. Каб яго пачулі паўсюль, Ібрахім падняўся на агромністы камень, які служыў яму лесвіцай пры адбудаванні Каабы. Раптам камень узняўся так высока, што перавысіў усе горы. Тады мовіў Ібрахім, звярнуўшыся да кожнага з чатырох бакоў света: **"О людзі! Вам прадпісана хадзіць на пакланенне ў старажытны храм, слухайцеся Господа свайго!"** І з усіх бакоў адгукнуліся: **"Ляббейка, Аллагюма, Ляббейка"** *(г.зн. "Перад Табой я, Божа мой, перад Табой!)"*

Покліч да наведвання зноў адбудаванай Каабы мы можам знайсці ў 119 аяце *(вершы)* II суры *(главы)* Кур'ана *(Рымскія лічбы паказваюць на суру Кур'ана, арабскія – на аят. Тутака і далей цыт. па выд.: Кур'ан. М., 1963. Пераклад Крачкоўскага. Пераклад з рускай мовы аўтара. – М.М.)*: **"І вось зрабілі Мы гэты дом зборышчам для людзей і надзейным месцам: "І вазьміце сабе месца Ібрахіма месцам малення". І Мы запаведвалі Ібрахіму і Ісмаілу: ачысціце Мой дом для здзяйсняючых абход і прыбываючых, і пакланяючыхся, і падаючых ніцма".**

Імем Ібрахіма асвечана не толькі пакланенне Каабе, але і ўвесь рытуал хаджа, які з'яўляецца як бы аднаўленнем дзеянняў Ібрахіма і яго сям'і ў Мецы.. Абрады паломніцтва, згодна мусульманскаму паданню, былі вызначаны самім Мухаммедам у час так званага "развітальнага" хаджа ў 632 г. н.э.

Перш чым уступіць у святы горад, паломнік павінен зрабіць рытуальнае амавенне *(гусл)*. Шмат хто афарбоўвае пазногці хной, змазваюць цела рознымі духмянымі рэчывамі, некаторыя голяцца нагола. Затым паломнік надзявае іхрам – два кавалкі белай матэрыі, адным абгортвае бёдры ад пояса да кален, другім прыкрывае шыю і грудзі, накідвае на левае плячо і завязвае яго на правым баку. Паломнікі не маюць права здымаць іхрам да сканчэння паломніцтва. У мужчын галава павінна быць не пакрытай, у жанчын галаўны ўбор абавязковы. У якасці абутку дазваляюцца толькі сандаліі без шпілек.

У стане асвячэння – іхрама забаронены палавыя зносіны, нельга стрыгчыся, галіцца, абразаць пазногці, чысціць зубы, курыць, мыцца мылам. Адным словам, неабходна адкінуць усе людскія жаданні і клопаты аб уласнай знешнасці. У стане асвячэння забаронена таксама зрываць плады, паляваць і праліваць кроў. Неабходна ў гэты час аддавацца добрым развагам і домыслам, так як сказана ў Кур'ане: **"Хадж – вядомыя месяцы, і хто абязаўся ў іх на хадж, то няма прыбліжэння (да жанчыны), і распутства, і спрэчкі ў час хаджа, а што вы зробіце добрага, то ведае Аллаг. І запасайцеся, бо лепшае з запасаў – набажнасць. І бойцеся Мяне, уладара розуму"** *(II, 193)*.

Прывёўшы сябе ў стан асвячэння – іхрам, веруючы чытае малітву і меціць жывёлу, якую прынясе ў ахвяру. Адразу ж пасля гэтага ён пачынае ўсклікаць: **"Ляббейка!"** *(г.зн. "Падпарадкоўваюся*

*Табе!")*. Гэты воклiч будзе гучаць бесперапынна, аж да выканання абрада кiдання каменчыкаў.

Зараз можна пачынаць абрады малога паломнiцтва – умра: паломнiкi сем разоў абыходзяць супраць гадзiннiкавай стрэлкi вакол Каабы *(таваф)*, цалуюць чорны камень або датыкаюцца да яго, затым зноў здзяйсняюць рытуальныя абходы вакол Каабы, моляцца супраць каменнай плiты, на якой, як лiчыцца, знаходзiцца адбiтак ступнi Iбрахiма, п'юць ваду з святой крынiцы Замзам, якую вывеў Джабраiл перад немаўлём Iсмаiлам. Вада з калодзежа лiчыцца гаючай, i мусульмане часта адвозяць яе на радзiму ў спецыяльных пасудзiнах – замзамiйя. Затым веруючыя сем разоў прабягаюць або праходзяць хуткiм крокам памiж пагоркамi Сафа i Марва *(сай)*. На гэтым умра заканчваецца i пачынаецца хадж – вялiкае паломнiцтва.

Вось асноўная праграма хаджа:

1. 7-га чысла Зуль-Хiджжа адбываецца ўрачыстая пропаведзь *(хутба)* у мячэцi Каабы; у той жа вечар або на наступную ранiцу паломнiкi пакiдаюць Мекку;

2. 8-га чысла працэсiя паломнiкаў рушыць цераз далiны Мiна i Муздалiфа да далiны Арафат, дзе паломнiкi праводзяць ноч у малiтвах i набажных роздумах;

3. у поўдзень 9-га Зуль-Хiджжа прыступаюць да цэнтральнага i найбольш урачыстага абраду хаджа – прадстаянню *(вукуф)* каля гары Арафат, якое працягваецца да захаду сонца. Галоўны iмам меккiнскай мячэцi ўязджае на белым канi на ўзгорак i з вяршынi яго чытае хутбу i ўзносiць мольбы да Усявышняга. Як толькi сонца зайдзе за горы, наступае iфада: усе спяшаюцца пад гукi музыкi i выстралаў у далiну Муздалiф. Тут у ярка асветленай мячэцi чытаюцца вячэрняя i начная малiтвы;

4. 10-га чысла пасля ранiшняй малiтвы i пропаведзi паломнiкi накiроўваюцца ў далiну Мiна, дзе кожны мусульманiн кiдае ў слупы, сiмвалiзуючыя Iблiса, сем каменчыкаў, падабраных раней у Муздалiфе. За гэтым наступае ахвярапрынашэнне жывёл – авечак, козаў або вярблюдаў. Мяса ахвяры павiнна раздавацца бедным, а лiшкi застаюцца на месцы.

Здзейснiўшы хадж паломнiк атрымоўвае тытул хаджы, якi звычайна ставiцца перад iмем, i права насiць зялёную чалму. Хаджы, як правiла, карыстаюцца асаблiвай павагай у мясцовай абшчыне мусульман.

Ад хаджа вызваляюцца дзецi, жанчыны, старыя i нямоглыя, а таксама людзi бедныя, маламаёмныя i не маючыя магчымасцi наведаць Каабу, бо сказана ў Кур'ане, што **"... абавязак хаджа к дому – для тых, хто ў стане зрабiць шлях да яго"** *(III, 91)*. Чалавек, якi не мае магчымасцi здзейснiць паломнiцтва ў Мекку, але мае для гэтага сродкi, можа наняць паверанага, векiля, якi здзейснiць яго на карысць паслаўшага. Паломнiку рэкамендуецца мець грошы, неабходныя не

толькі для падарожжа, але і для ўтрымання сям'і на гэты перыяд. Усякае паломніцтва зверх абавязковага лічыцца асабліва набажным.

На зваротным шляху з Меккі многія веруючыя наведваюць святы горад Медыну, дзе знаходзіцца грабніца прарока Мухаммеда, яго дачкі Фацімы, любімай жонкі – Айшы, магілы трох першых праведных каліфаў – бліжэйшых паплечнікаў Прарока, кіраваўшых абшчынай мусульман пасля яго смерці, а таксама мячэць Набаві. Некаторыя мусульмане наведваюць і горад пракаў – Іерусалім і аль-Халіль *(Хеўрон)* у Палесціне, дзе знаходзіцца грабніца Ісмаіла.

10 Зуль-Хіджжа па ўсяму мусульманскаму свету веруючыя нясуць на ахвяру жывёл у памяць аб гатоўнасці Ібрахіма прынясці ў ахвяру Аллагу свайго сына. (...).

Той, хто мае скаціну, спецыяльна адкормлівае абраную жывёлу да свята, бо гаворыцца ў Кур'ане: **"Тлустых Мы зрабілі для вас з адмечаных для Аллага; для вас у іх карысць. Памінайце ж імя Аллага над імі, стаячымі ў шэраг. А калі іх бакі звергнуцца, то ешце іх і карміце стрыманага і просячага сарамліва..."** *(XXII, 37)*.

Мусульманін, зрабіўшы ахвяру, не павінен скупіцца на частаванне, неабходна абавязкова накарміць бедных і галодных. На гэтай падставе ў Кур'ане гаворыцца: **"... каб сведчыць аб карысным ім і памінаць імя Аллага ў азначаныя дні над падараванымі ім жывёламі ската: ешце іх і накарміце няшчаснага бедняка!"** *(XX, 29)*. Рытуальнае частаванне *(худойі, садака)* робіцца таксама для пазбягання ўсемагчымых няшчасцяў і хвароб.

Іншы раз можна бачыць, як прыгатаваных да ахвяры бараноў, коз, быкоў ці вярблюдаў упрыгожваюць фарбай і ўвешваюць усемагчымымі каралямі і балабончыкамі. Справа ў тым, што згодна ісламскаму вучэнню шлях у рай ідзе цераз Сірат – мост, перакінуты над безданню пекла. Мост гэты тонкі, як волас жанчыны, вастрэй ляза меча і гарачэй полымя. Каля ўвахода на Сірат у Судны дзень будуць знаходзіцца жывёлы, якіх ахвяравалі на Курбан-Байрам.

*(...)* Многія мусульмане замяняюць ахвяру буйнай жывёлы узносам у мячэць, часам таго ж кошту, або рэжуць дробную жывёлу – курэй, качакак, трусоў. Найбольш набажныя мусульмане дабраахвотна пасцяцца дзесяць дзён да прыхода Курбан-Байрама.

Святкаваць Дзень ахвярапрынашэння пачынаюць зранку. Ледзьве стане светла, мусульмане ідуць у мячэць да ранішняй малітвы, але да гэтага трэба зрабіць поўнае амавенне, надзець новае і ахайнае адзенне. Многія націраюць сябе пахучымі мазямі. Перад малітвай есці не рэкамендуецца. Па заканчэнні ранішняга намазу *(малітвы)* веруючыя вяртаюцца дамоў, а затым, па пажаданні, збіраюцца групамі на вуліцы або па дворышчах, дзе пяюць хорам славаслоўе Аллагу *(такбір)*. Потым яны зноў накіроўваюцца ў мячэць або на спецыяльную пляцоўку *(намазгах)*, якая як правіла, знаходзіцца за горадам, дзе мулла або імам-хатыб мовіць ка-

занні *(хутбу)*. Хутба звычайна пачынаецца з велічання Аллага і Яго прарокаў, затым растлумачваецца паходжанне хаджа і значэнне абрада ахвярапрынашэння. Вопытны імам-хатыб часта робіць пропаведзь у форме рыфмаванай прозы.

Па заканчэнні пропаведзі мусульмане ідуць звычайна на могілкі маліцца за памерлых. Заадно на мізарах *(мусульманскіх могілках)* людзі пакланяюцца грабніцам мясцовых "святых". Вярнуўшыся з могілак дамоў, прыступаюць да ахвярнага абрада.

Над святой, прыгатаванай для ахвяры жывёлай служыцель мячэці – мулла або муэдзін – чытае спецыяльную малітву, у якой упамінаецца ахвярапрынашэнне Ібрахіма, а ўладальнік жывёлы або спецыяльна наняты чалавек у гэты час перараазае ёй горла. Над ахвярай, у прынцыпе, любы радавы мусульманін можа выгукнуць кароткую формулу: **"Бісміллаг, Аллаг акбар!"**, т.е. **"У імя Аллага, Аллаг вялік!"** Перш чым барана рэжуць, яго абавязкова валяць на зямлю галавой ў бок Мекі, у рот часта кладуць ледзянец *(набод)*; затым ледзянец вымаюць, так як ён з'яўляецца бласлаўленым. Сабраную кроў і печань барана загортваюць у чорную анучу, каб захаваць ад святла. Яны маюць вялікае значэнне. З вачэй барана робяць амулет *(назары-курбоні)*. Ахвяра павінна быць узростам не меньш за год, яна павінна быць здаровай і не мець аніякіх недахопаў. Авечка ці каза могуць быць прынесены ў ахвяру толькі ад аднаго чалавека, карова, бык ці вярблюд ад сямі чалавек. Звычайна рэжуць барана, казу, карову або быка – двухгодак, ахвярнаму вярблюду, як правіла, бывае не менш пяці гадоў. Лічыцца, што ахвяру можна рабіць не толькі за жывых, але і за памерлых.

Часта скуры прынесеных у ахвяру жывёл аддаюцца ў мясцовую мячэць. Мяса вараць і з'ядаюць за агульнай трапезай, на якой калі-некалі прысутнічае мулла або муэдзін. У Курбан-Байрам кожны мусульманін павінен адведаць мясную страву, звычайна гошт ці кебаб. У святочныя дні ў розных краінах мусульмане гатуюць традыцыйныя для іх стравы. У Індыі, напрыклад, на свята Бадр-Ід вас абавязкова пачастуюць арыгінальнай стравай – севіян – араматызаванай вермішэллю з вострымі прыправамі. Свята – гэта радасная падзея, таму святочная ежа павінна быць смачнай і разнастайнай. Мусульмане нашай краіны гатуюць такія традыцыйныя ўсходнія стравы, як плоў, манты, шашлык, лагман, пельмені – чучвара, смажанку, бешбармак, усемагчымыя салаты, піражкі – самсы. Напярэдадні Курбан-Байрама выпякаюцца невялікія скавароднікі – кульчы. Дзеці і жанчыны ласуюцца усемагчымымі салодкасцямі.

У Курбан-Байрам і наступныя тры-чатыры дні робяцца візіты да сяброў і суродзічаў, падносяцца разнастайныя падарункі. Лічыцца, што ў першую чаргу неабходна рабіць падарункі суродзічам, прычым яны павінны быць не вельмі каштоўнымі і экстравагантнымі. Паднашэнне падарункаў рэкамендуецца, але не абавязкова *(му-*

*сульманскае права дзеліць усе ўчынкі чалавека на пяць катэгорый – абавязковыя, рэкамендуемыя, дазволеныя, га́нячыя і забароненыя)*, так як цяжкасці з іх набыццём па прычыне недахопу сродкаў вымушаюць маламаёмных пазбягаць візітаў.

У кожным доме мусульманіна ў свята Курбан-Байрам уладарыць дух такой гасціннасці і шчодрасці, што любы чалавек, зайшоўшы ў дом, не выйдзе, не адведаўшы пачастунка.

Вось мы і пазнаёміліся з самым вялікім і каларытным святам мусульманскага света, у тым ліку і нашых беларускіх татар, Курбан-Байрамам. Там, дзе захоўваюцца ўсе традыцыі гэтай урачыстасці, надоўга ў доме застаюцца на невялічкіх лістках малітвы, атрыманыя веруючымі ад імамаў, муллаў, або дэрвішаў, якія дапамагаюць ім ад розных хвароб, перашкод і няшчасцяў. Ці дапамагае гэта людзям? Канешне, дапамагае. Бо той, хто служыць Аллагу, выконвае запаветы вяшчуна Мухаммеда – той і добра служыць людзям! Калі хто гэта разумее, той праведна і шчасліва жыве!

*(Пераклад зроблены па кнізе "Мусульманские праздники", якую асабіста падаравау мне Пачэсны член Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб", ветэран вайны і працы, нараджэнец Крыма Ісмаіл Ісмаілавіч МЕМЕТАЎ 28 сакавіка 1997 г. – М.М.).*

**М. Маліноўскі.**



# АПОШНІ ДОЎГ ЯГО ЖЫЦЦЯ – ХАДЖ

***(З кнігі "Жыццё Мухаммеда" В. Пановай, Ю. Вахціна, глава 25 "Я абраў смерць")***

***Пераклад прысвячаю светлай, зіхатлівай і незгасальнай памяці Якуба (Якава) Адамавіча ЯКУБОЎСКАГА, знакамітага беларускага энцыклапедыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР***

У сакавіку прыйшоў час паломніцтва, і Мухаммед накіраваўся ў Мекку. Звестка аб тым, што сам Прарок узначаліць хадж, разнеслася паўсюль. Натоўпы мусульман далучыліся да яго – з адной Медыны, сцвярджаюць набажныя гісторыкі, пакланіцца святыням выйшла шэсцьдзесят тысяч веруючых. Можа стацца, іх было не шэсцьдзесят тысяч, а ўсяго толькі тысячы тры – гісторыкі раўніва адносіліся да славы Прарока. Хаджыеў было мноства, незлічоныя натоўпы рухаліся ўслед за Мухаммедам, а якім лікам вызначыць гэты выбух энтузіязму і даверу да Прарока – неістотна.

Усе "спадарожнікі" Прарока, суправаджаўшыя яго, усе дзевяць жонак рухаліся за ім – на насілках, замацаваных на спінах вярблюдаў, як і належыла знатным дамам.

Пасля першай жа начной стаянкі Мухаммед зняў звычайнае адзенне і надзеў іхрам – з гэтай хвіліны ён прадстаў перад Богам і ўсё людскае і нячыстае стала для яго забароненым. Усе захацелі пайсці яго прыкладу, але Мухаммед патрабаваў, каб іхрам надзелі толькі тыя, хто вядзе з сабой вызначаных для ахвярапрынашэння жывёл. Жонкі яго падначаліліся гэтаму патрабаванню, як зрабілі ўсе астатнія – невядома; у наступным веруючыя адверглі гэту рэкамендацыю Прарока.

**– Тут я служу Табе, Божа!** – усклікнуў Мухаммед, надзеўшы іхрам. **– Тут я служу Табе! Няма Табе роўнага! Аднаму Табе – пакланенне, ад Цябе – усё добрае! Няма царства, акрамя Твайго царства, няма ўлады, акрамя Тваёй улады!**

Словы гэтай старажытнай малітвы былі добра вядомы, але ў часы невуцтва паганцы сказілі іх, а зараз Мухаммед ачысціў яе, вярнуў ёй святасць – якраз так маліўся прабацька Ібрахім, прадстаўшы перад Богам.

Ачысціць пажаданы Аллагу хадж ад скажэнняў, падказаных сатаной мнагабожнікам, і было яго апостальскім доўгам.

У Мецы Прарок зрабіў умру – пакланенне Каабе. Хвароба змучыла яго, здзяйсняць абход вакол храма і бегчы паміж ас-Сафай і аль-Марвай яму была не па сілах. На вярблюдзіцы аль-Касве аб'ехаў ён сем разоў вакол Каабы, палкай датыкаючыся да Чорнага каменя, на ёй здзейсніў "бег" паміж святымі пагоркамі. Выконваючы гэтыя старажытныя абрады, ён маліўся, і малітвы былі звернуты да адзінага Бога; тым самым умра ачысцілася ад паганскай брыдоты і пачала служыць Ісламу.

Мухаммед змазаў валасы спецыяльнай маззю, прыгатаванай з камедзі; мазь гэтая прыдавала галаве ахайнасць, дапамагала супраць насякомых і рабіла не такім балючым наступнае галенне галавы. Але галіцца Мухаммед не стаў – ніхто не павінен галіць галаву, тлумачыў ён, пакуль ахвяра не дойдзе да свайго месца; яму ж яшчэ трэба было пакланіцца навакольным святыням і здзейсніць ахвярапрынашэнне.

Загарнуўшы ўмру, Мухаммед зняў іхрам і пераадзеўся ў звычайнае адзенне, каб крышачку адпачыць. Разам з іхрамам ён зняў з сябе ўсе абавязкі паломніка – усё людскае стала для яго дазволеным, ён мог бачыцца з жонкамі, займацца справамі. Амар адкрыта асудзіў яго за гэта; што бы Мухаммед ні рабіў, заўсёды знаходзіліся незадаволеныя, якія яго асуджалі.

Адпачыўшы, ён зноў надзеў іхрам і накіраваўся выконваць самае цяжкае – ачысціць ад брыдоты даліны Міна і Муздаліфа і гару

Арафат. Тутака былі галоўныя святыні качэўнікаў, мнагабожнікі шанавалі іх больш, чым Каабу. Зараз качэўнікі прынялі Іслам, павінны былі паважаць на гэтых месцах, наскрозь прасякнутых паганствам, Аллага.

Цераз даліны Міна і Муздаліфа прайшоў Мухаммед на чале шматтысячнага натоўпу паломнікаў да гары Арафат, старажытнаму месцу прадстаяння, сустрэчы тварам да твару з Богам або багамі. Ідалы былі знішчаны, але месцы, на якіх яны яшчэ нядаўна стаялі, запомніліся і шанаваліся мусульманамі як асабліва святыя. У гэтым гняздзілася паганства.

**— Увесь Арафат — месца прадстаяння!** — гучна апавясціў Мухаммед — **Увесь цалкам!**

**— Тут служу я Табе, Гасподзь! Тут я служу Табе!** — сталі крычаць мусульмане знаёмыя словы малітвы, належнай у месцах прадстаяння. Гэтую малітву, лаббайку йа рабба, як яе завуць арабы, выкрыквалі як мага грамчэй і паўтаралі шматразова.

З вяршыні Арафата, здзейсніўшы палудзённую малітву, звярнуўся Мухаммед з казаннем да паломнікаў. Ён сядзеў на аль-Касве, а Рабія ібн Убайя, надзелены магутным голасам і выразным вымаўленнем, быў яго вяшчальнікам.

**— О людзі!** — крычаў Рабія шматтысячнаму натоўпу. — **Пасланнік Бога гаворыць: ведаеце ці ж вы, які зараз месяц?**

**— Святы месяц!** — крычалі хаджыі.

**— Пасланнік Бога гаворыць,**— крычаў Рабія,— **Бог асвяціць вашу кроў і ваш набытак да дня сустрэчы з Ім, як Ён асвяціў гэты месяц!**

Фразу за фразай паўтараў Рабія словы Мухаммеда, голас якога не мог даляцець да натоўпу.

**— О людзі! Не ведаю, ці сустрэнемся мы цераз год — услухайцеся ж да слоў маіх!** — гаварыў Мухаммед. **— Ваша кроў і ваша маёмасць — святыя да сустрэч з Госпадам вашым, і гэты дзень, і гэты месяц, і гэты хадж — святыя!**

**Вярніце клятвы таму, хто вам даверыўся, клятвы забараніў Гасподзь! Рост забараніў Гасподзь — працэнты знішчаюцца. Не павінна быць ніякага ліхвярства, і адсоткі Аббаса ібн аль-Мутталіба знішчаюцца!**

**... За кроў, пралітую ў часы няведання, Бог забараніў помсціць! І я не буду судзіць яе!**

**О людзі! Сатана губляе ўладу над усякім маляшчымся на вашай зямлі. Але калі вы станеце пакланяцца яму, ён будзе расстаўляць вам сеткі і зробіць нікчэмнымі у вачах Бога ўсе вашыя дзеянні — беражыцеся ж сатаны!**

**Час належыць Богу — так было ў дзень, калі Ён стварыў нябёсы і зямлю, так ёсць, і так будзе! Лік месяцаў у Бога — дванаццаць, і ўстаўка — павелічэнне няверыя, дзеянне сатаны.**

**Ваша права — на жонак вашых, і права вашых жонак — на вас! Вы маеце права патрабаваць, каб яны не апаганьвалі ложак ваш і пазбягалі**

**брыдотнага. Калі яны не ўстрымаюцца – Бог дазваляе запіраць іх і караць ударамі, але без лютасці. Калі яны ўстрымаюцца – іх права патрабаваць, каб вы кармілі іх і адзявалі іх з дабрынёй! Будзьце памяркоўнымі да ўчынкаў жонак вашых – бо яны палонніцы вашы, не ўмеючыя ўтаймоўваць сябе; вы ўзялі іх па закону Госпада, вы валодаеце імі па слову Госпада – слухайце ж мае словы, о людзі!**

**– О людзі! Веруючы – брат веруючага, і ўсе веруючыя – браты! Бярыце ж ад брата свайго толькі тое, што ён дае вам, дае па добрай волі – і не памыліцеся вы! Зразумелі вы словы мае?**

**– Зразумелі!** – крычалі веручыя.

**– Пасланнік Бога сказаў,**– крычаў вяшчальнік Мухаммеда,– **Бог сведка таго, што вы зразумелі!**

**– О людзі! Прытрымлівайцеся таго, што я пакідаю вам, і вы не памыліцеся! Яснае ўказанне, Кнігу Бога, пакідаю я вам – прыслухоўвайцеся ж да таго, што я гавару вам! Веруйце: Бог – адзін, смерць і ўваскрэсенне – несумненны, і вызначаны час, калі паўстаўшыя з дамавін будуць выкліканы на суд! Веруеце ці вы?**

**– Веруем!** – крычалі ў адказ хаджыі...

Так або прыкладна так прапаведаваў Мухаммед у час хаджа.

Калі сонца апусцілася да самага гарызонту, хаджыі захваляваліся – яны хацелі, як у мінуўшчыну, з лямантам кінуцца да гары Муздаліф, каб хутчэй запаліць вогнішча ля яе падножжа... Але Мухаммед заставаўся нерухомым – яму не трэба было Адкрыццяў, каб бачыць у гэтых лямантах па ўміраючым сонцы паганскую мярзотнасць, несумяшчальную з верай. Ён пакінуў іх пачакаць, пакуль сонца поўнасцю не схавалася за гарызонтам, а затым наўмысля марудліва – ніякіх падстаў спяшыць не было! – павёў іх да Муздаліфа. Тое, што хаджыі пачалі крычаць, і ляскаць у далоні, і свістаць, яго не засмучала, няхай зараз крычаць колькі душы пажадана, сонца ўжо села...

У Муздаліфы паломнікі распалілі агромністыя вогнішчы і працягвалі свае крыкі. Тут яны прывыклі пакланяцца Кузаху – грамавержцу, уладару навальніц і дажджоў, апладняўшых палі і пяскі. Яго выклікалі вогнішчамі і крыкамі, ударамі ў бомы і свістам. Перарабляючы месячны каляндар устаўкамі, яны прыстасоўвалі час вялікага хаджа да вясны, да дня вясенняга раўнадзенства – адначасова гэта было і свята сонца. Каля таго месца, дзе ўсяго толькі два гады таму ўзвышаўся ідал Кузаха, хацелі мусульмане стаць перад Аллагам, але Мухаммед не дапусціў гэтага – уся Муздаліфа ёсць месца прадстаяння, аб'явіў ён, адсюль трэба звяртацца да Бога: **"Тут я служу Табе, Гасподзь!..."** Ён не дазволіў хаджыям дачакацца ўсходу сонца і яшчэ ў цемры, уваславіў Аллага, павёў іх у даліну Міна.

Хадж, які ўзначаліў Мухаммед, меў месца ў сакавіку, і чыстае пакланенне Аллагу звязвалася ў розуме паломнікаў, толькі што прыняўшых Іслам, са звычайным пакланеннем сонцу, вясне і Кузаху-

грамавержцу. Але хутка гэтай мярзотнасці павінен быў прыйсці канец – Бог не выпадкова забараніў выпраўляць месячны каляндар, час хаджа будзе ад гэтага часу прыходзіцца на розную пару года, хадж назаўсёды згубіць сувязь з паганствам, шанаваннем сонца і планет. Многія жаліліся Мухаммеду, што ў летняе пекла нясцерпна цяжка будзе рабіць паломніцтва. **"Хадж – гэта ахвяра Богу,**– адказваў ім Мухаммед,– **а ахвяра і не павінна быць лёгкай".**

У даліне Міна былі пакінуты толькі тры ідалы – ад гэтага часу яны сталі сімваламі сатаны, якога Ісмаіл некалі адганяў камянямі. І старажытны абрад кідання камянёў напоўніўся новым сэнсам – мусульмане адракаліся ад усялякай сувязі з сатаной, кідаючы ў кожнага ідала па сямі камянёў, падабраных на схілах Муздаліфы. Кіданні камянёў яны суправаджалі лаббайкай: **"Тут служу Табе, Гасподзь! Тут я служу Табе!"** – так як Міна таксама была месцам прадстаяння. Ахвярапрынашэнні ў даліне Міна веруючыя рабілі зараз у памяць аб Ібрахіме, які збіраўся тут прынесці ў ахвяру Богу свайго сына.

**– Уся даліна Міна – месца ахвярапрынашэння!** – аб'явіў Мухаммед, яму важна было адвучыць мусульман ад забойства жывёл на месцах, дзе толькі што стаялі ідалы, бо ахвяры іх належылі Аллагу.

**– Піце і ешце, цешцеся – так загадаў Аллаг!** – абвясціў ім Мухаммед; любімае паганцамі свята не таіла ў сабе пагрозы чыстаце Ісламу.

Пасля ахвярапрынашэння бальшасць паломнікаў заканчвалі хадж – яны галілі галаву, здымалі іхрам і вярталіся да звычайнага жыцця.

Вакол былі расстаўлены незлічоныя палаткі і шатры, гандляры расклалі свае тавары, фокуснікі, паэты і пяюны сабраліся сюды з усёй Аравіі – знакаміты кірмаш у даліне Міна пачаўся. Трэць мяса ахвярных жывёл прызначалася беднякам, усе маглі есці дасыта і весяліцца.

Мухаммед прынёс у ахвяру шэсцьдзесят тры вярблюды – па аднаму вярблюду за кожны год свайго жыцця. У гонар сваіх жонак ён прынёс у ахвяру кароў. Сюды, у даліну Міна, прыбыў да яго з Йемена ўстрывожаны Алі – Мухаммед зрабіў хадж без яго, і гэта магло сур'ёзна адлюстравацца на яго рэпутацыі ў вачах веруючых. Мухаммед прыдбаў вярблюдаў і для Алі – трыццаць сем вярблюдаў прынёс Алі ў ахвяру, калі верыць паданням,– таксама па ліку гадоў свайго жыцця. Нечуванае шчодрае частаванне справілі Мухаммед і Алі для паломнікаў.

Лёс Алі турбаваў Мухаммеда: залішак уплывовых мусульман адносіліся да стрыечнага брата, выхаванца і зяця Прарока варожа. Качэўнікам ж Алі падабаўся – бясстрашны ваяр, шчодры і прамадушны, ён быў ім бліжэй і больш зразумелы, чым палітыкі тыпу Абу Бакра і Амара. Мухаммед часта даручаў Алі ўладжваць справы качэўнікаў

і наводзіць парадак сярод іх, ведае, што гэта памнажае чысло яго сяброў. Хадж Мухаммед выкарастаў і для таго, каб праславіць Алі яшчэ болей – ён зрабіў з ім ахвярапрынашэнне, ён усяляк выказваў сваю любату да яго і, кажуць, нават заклікаў веруючых любіць Алі – бацьку яго адзіных унукаў – Хасана і Хусейна.

З даліны Міна Прарок зноў вярнуўся ў Мекку; тут ён пакланіўся Каабе, выпіў вады з святой крыніцы Замзам, а потым ужо агаліў галаву і зняў іхрам – на гэтым яго паломніцтва была закончана, і ён вярнуўся ў Медыну.

Пераклаў з рускай мовы **М. МАЛІНОЎСКІ.**



# ТАТАРЫ-МУСУЛЬМАНЕ Ў ПАЛІТЫЧНЫХ ПАДЗЕЯХ НА БЕЛАРУСІ, У ПОЛЬШЧЫ І РАСІІ

*(канец XVIII – пачатак XX ст.ст.)*
*(Заканчэнне, пачатак гл.:"Байрам", 1998, №4)*

У перыяд Першай сусветнай вайны, а таксама ў гады рэвалюцыі ў розных раёнах Расіі ўзнікаюць ваенныя мусульманскія фарміраванні. Вясной 1917 г. ў Петраград прыбывае генерал Мацей СУЛЬКЕВІЧ, камандуючы 37-м корпусам расійскай арміі. Ён перадаў мусульманскаму выканкаму Савета мемарыял аб фарміраванні на румынскім фронце 3 мусульманскіх дывізій. Генерал меў намер у далейшым выкарыстаць мусульманскія палкі для стварэння незалежнай дзяржавы ў Крыме. Гэтая акцыя генерала М. СУЛЬКЕВІЧА выклікала заклапочанасць Часовага ўраду да такой ступені, што яны загадалі ваенным уладам Крыма неадкладна накіраваць на фронт усе мусульманскія падраздзяленні. Але дзякуючы намаганням літоўскіх татар гэты загад не быў цалкам выкананы. Улетку 1917 г. на румынскім



Аляксандр Сулькевіч – "Чарны Міхал"
(1867–1916)

фронце ствараецца першы мусульманскі корпус. Значны працэнт яго камандзіраў і арганізатараў складалі літоўскія татары. Камкорам стаў М. СУЛЬКЕВІЧ, камандуючым артылерыі – генерал А. МІЛЬКОЎСКІ, начальнікам штаба корпуса – генерал Ю. БАЗАРЭВІЧ ды іншыя. Але ваенныя дзеянні корпуса былі нядоўгімі. Ужо ў 1918 г. ён быў разброены немцамі.

Цікавы лёс мусульманскага гвардзейскага палка пад камандаваннем капітана А. ТАЛЬКОЎСКАГА, створанага ў канцы 1917 г. ў Пецярбургу. Рэвалюцыйна настроеныя салдаты гэтага палка прынялі рашэнне вяртацца ў сваё роднае Паволжа. У гэты час, вясной 1918 г. бальшавікі раззбройвалі ўсе мусульманскія фарміраванні, якія не хацелі ваяваць на іх баку. Салдаты мусульманскага палка мелі намер паехаць у Казань. Але па дарозе ў Маскву полк быў інтэрніраваны. Асобныя групы афіцэраў і радавых вырашылі ўцякаць. Прабіраючыся праз усю Расію і Украіну, яны дайшлі да Крыма, дзе ўключыліся ў палітычнае жыццё. Тут яны сустрэліся з сотнямі татараў з Польшчы, Літвы і Беларусі, якія прымалі актыўны ўдзел у нацыянальным руху паўвострава.

У чэрвені 1918 г., калі нямецкія войскі акупавалі Крым, мясцовыя татары абвясцілі яго незалежнасць, стварыўшы ўласны ўрад на чале з генералам Мацеем СУЛЬКЕВІЧАМ. Стаўшы прэм'ер-міністрам Крыма, М. СУЛЬКЕВІЧ адначасова заняў пасаду міністра замежных спраў і вярхоўнага галоўнакамандуючага. У склад кіраўніцтва Крымскай рэспублікі ўвайшлі і іншыя татары з Беларусі, Літвы і Польшчы. Ім даверылі міністэрствы юстыцыі, асветы, аховы здароўя і абароны. Леон КРЫЧЫНСКІ, былы член Таварыства польскіх мусульман у Пецярбургу, кіраваў работай канцэлярыі прэм'ера, а таксама ўзначальваў камісію татарскага парламента па вырашэнні татарска-грэчаскай спрэчкі ў Крыме. З дазволу парламента ён устанаўліваў кантакты з дзеючымі там польскімі грамадскімі арганізацыямі, заснаваў Таварыства польскіх татар у Сімферопалі. Татарамі з Беларусі, Літвы і Польшчы былі таксама Аляксандр МУХАРСКІ, галоўны рэдактар газеты "Крым", якая выходзіла на рускай мове, і Якуб БАГДАНОВІЧ – дырэктар настаўніцкай семінарыі. Без перабольшвання можна сказаць, што беларуска-польска-літоўскія татары ў многім садзейнічалі развіццю культуры крымскіх татар. Яны ўзялі ў свае рукі некаторыя выдавецтвы і частку прэсы. У Сімферопалі на працягу 1918 г. з іх дапамогай выдаецца шэраг кніг палітычнага, гісторыка-этнаграфічнага характара. Татары з Беларусі, Літвы і Польшчы садзейнічалі павышэнню якасці такіх выданняў, як "Крым" і "Крымская ўрадавая газета". Дзякуючы ім у Сімферопалі ўтвараецца мусульманскі клуб. Яго члены паставілі сабе мэтаю ажыццяўленне культурна-асветніцкай дзейнасці сярод мясцовага насельніцтва. Беларускія татары ўнеслі значны ўклад і ў стварэнне першага ўніверсітэта ў Сімферопалі.


Татарын. Генерал-маёр Юзеф Якубоўскі

У кастрычніку 1918 г. ў Крым уварваліся арміі генерала А. ДЗЕНІКІНА. На працягу некалькіх дзён урад быў расфарміраваны, а паўвостраў уноў быў абвешчаны складанай часткай Расіі. У адносінах да дзеячоў незалежнага Крыма пачаліся рэпрэсіі. Іх пазбеглі толькі некалькі членаў урада на чале з прэм'ер-міністрам. М. СУЛЬКЕВІЧ і яго прыхільнікі эмігрыруюць у Баку. М. СУЛЬКЕВІЧ у 1918 г. прызначаецца начальнікам Генеральнага штаба арміі Азербайджана. Тут ён сустрэўся са сваімі землякамі А. КРЫЧЫНСКІМ – дырэктарам канцылярыі ўраду, К. СУЛЬКЕВІЧАМ – галоўным рэдактарам прававых выданняў, з віцэ-дырэктарам Міністэрства замежных спраў – А. ПАЛТАРЖЫЦКІМ і дырэктарам жаночай мусульманскай гімназіі М. СУЛЬКЕВІЧ і іншымі. Мацей СУЛЬКЕВІЧ пачаў арганізоўваць у г. Баку азербайджанскую армію пры ўдзеле афіцэраў турэцкага, татарскага і польскага паходжання. Гэта тлумачылася адсутнасцю ў Азербайджане свайго корпуса афіцэраў. Маючы добрыя адносіны з Польшчай, Азербайджан ахвотна прымаў у сваю армію татар з гэтай краіны. І калі ў снежні 1918 г. ў Баку прыехаў прадстаўнік Польшчы В. АСТРОЎСКІ, на вакзале яго вітала вялікая група польскіх татар на чале з генералам М.СУЛЬКЕВІЧАМ. На банкеце ў гонар пасланіка генерал падкрэсліў сваё польска-татарскае паходжанне. М.СУЛЬКЕВІЧ, які паходзіў са старадаўняга татарскага паселішча Некрашунцы, што на Гродзеншчыне, сумаваў па сваёй радзіме і нават думаў аб вяртанні дамоў. Але яго марам не было суджана збыцца. У красавіку 1920 г. ў Азербайджане адбыўся пераварот, у выніку якога паў буржуазны ўрад і была абвешчана савецкая рэспубліка. Асобам, якія ўваходзілі ў склад былога ўрада, выносіліся смяротныя прыгаворы. Сярод іх быў генерал М. СУЛЬКЕВІЧ і некалькі яго суайчыннікаў, якія не здолелі своечасова эмігрыраваць у Турцыю.[1]

Актывізацыя дзейнасці польскіх татараў у справе адраджэння самой Польшчы назіраецца толькі пасля 1919 г., калі большую частку

[1] Беларускі гістарычны часопіс, 1997, № 3.

іх родных мясцін занялі польскія войскі. Там утвараецца новая адміністрацыя, узнікае Грамадзянскае упраўленне Усходніх зямель. У большасці месцаў татары ўключаюцца ў работу польскіх органаў адміністрацыі, паступаюць таксама на службу ў органы правапарадку, каб сумесна з іншымі жыхарамі ахоўваць чыгуначныя вакзалы, масты, склады і дзяржаўную маёмасць.



Татарын. Генерал-маёр Давыд Юзефовіч. 1985 г. Яго жонка Марыя Кандаўрава мела маёнткі ў Ваўкавыскім (пяць вёсак) і ў Слонімскім раёне

Акупацыя Вільні польскімі войскамі ў красавіку 1919 г. дазволіла аднавіць дзейнасць Камітэта татар Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны, частка членаў якога разам са старшынёй А. АХМАТОВІЧАМ вярнуліся з Петраграда. Атрымаўшы афіцыйную назву Цэнтральнага камітэта татараў Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны, гэта арганізацыя стала паўнамоцным прадстаўніком татарскага насельніцтва. Яна засяродзіла ўвагу на стварэнне ў польскай арміі татарскага кавалерыйскага палка. Дадзены праект быў прадстаўлены старшынёй Камітэта А. АХМАТОВІЧАМ кіраўніку польскай дзяржавы Ю. ПІЛСУДСКАМУ, які ён падтрымаў. Цэнтральны камітэт татараў Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны разам з Камітэтам абароны ўсходніх межаў удзельнічалі ў стварэнні яшчэ адной структуры – Літоўска-Беларускай стралковай дывізіі. Цэнтральны камітэт выдаў спецыяльную адозву да мусульманскага насельніцтва краю. У ей ён звяртаўся да татарскай мінуўшчыны, узгадваў аб удзеле татар ва ўсіх ваенных дзеях Рэчы Паспалітай, аб стане, якое займала татарская шляхта, а таксама заклікаў да ўступлення ў створаны татарскі полк.

У вярбовачнай акцыі ўдзельнічалі і самі татары, якія ад імя Камітэта праводзілі яе ў татарскіх абшчынах. У іх з вялікай энергіяй прымалі ўдзел палкоўнік Мацей БАЙРАШЭЎСКІ, маёр Давыд ЯНОВІЧ-ЧАІНСКІ і паручнік Канстанцін АХМАТОВІЧ. Былыя афіцэры рускай арміі, яны з 1919 г. сталі афіцэрамі арміі Рэчы Паспалітай. Для ажыццяўлення плана стварэння татарскага палка яны едуць у Ашмянскі, Лідскі, Навагрудскі і Слонімскі паветы, вядуць агітацыю за стварэнне палка, прычым не толькі сярод мусульман, але і хрысціян. У гэтай справе ім дапамагаюць імамы і ксяндзы. Няглед-

зячы на амаль 3-хмесячную вярбовачную работу па арганізацыі спачатку ў Беластоку, а затым у Гродне татарскага палка, уступіць у яго пагадзілася адносна невялікая колькасць асоб мусульманскага веравызнання, хаця хрысціян аказалася значна больш. Прычына заключалася ў тым, што многія татары служылі ў рускай арміі, або выселены ўглыб Расіі. Не ўсе населеныя пункты з вялікай колькасцю татар знаходзіліся ў адміністрацыйным падпарадкаванні грамадзянскага ўпраўлення ўсходніх зямель. Несумненна і тое, што на вярбоўцы адбіліся і наступствы вайны.

Пачатак ваенных дзеянняў татарскага палка прыпадае на першыя дні мая 1919 г., калі пад камандаваннем палкоўніка Я. ШЛЁНСКАГА ім былі заняты пазіцыі на дэмаркацыйнай лініі з немцамі на ўчастку Друскінінкай – Новы Двор. 2 ліпеня 1919 г. салдаты Татарскай конніцы (*такую назву спачатку атрымаў полк*) прынялі прысягу, а ў канцы месяца выступілі на фронт, які праходзіў праз тэрыторыю быўшай Мінскай губерні. З верасня 1919 г. да красавіка 1920 г. татарскі полк у складзе 9-й пяхотнай дывізіі пад камандаваннем генерала Уладзіслава СІКОРСКАГА прымаў удзел у баявых дзеяннях у Палессі. Наогул гэты перыяд быў спакойным, нягледзячы на шэраг вялікіх сутычак. Вольны час выкарыстоўваўся для вучобы і далейшай вярбоўкі дабраахвотнікаў. У гэты перыяд Татарская конніца толькі на 20 % складалася з татар. Большасць складалі добраахвотнікі-палякі, выхадцы з усходніх зямель, а таксама з самой Варшавы і Лодзінскага ваяводства. Разам з імі было шмат беларусаў і яўрэяў. Але Цэнтральны камітэт рабіў усё, каб полк укамплектаваць мусульманамі. Ізноў гэта пытанне даводзіцца да ведама Ю. ПІЛСУДСКАГА, які і раней падтрымліваў дзеянні Камітэта. Дзякуючы гэтаму Татарская конніца была перайменавана ў Татарскі полк М. АХМАТОВІЧА, а камандаванне ім было даручана татарскаму генералу Аляксандру РАМАНОВІЧУ. Выдаецца таксама адпаведны загад аб салдатах-мусульманах, якія праходзілі воінскую службу ў іншых польскіх воінскіх злучэннях.

У сярэдзіне сакавіка 1920 г. полк узмацняецца дадатковым эскадронам і ўзводам сапёраў, а таксама салдатамі-мусульманамі з лагера ваеннапалонных у Стжалкаве, у першую чаргу каўказцамі (*6 афіцэраў і 225 салдат*). Акрамя таго, праводзіцца далейшая вярбоўка ў самой Вільні, дзе фарміруецца запасны эскадрон Татарскага палка ўлан імя М. АХМАТОВІЧА. Папаўненне палка каўказцамі прывяло да таго, што палавіна яго салдат аказалася мусульманамі. Полк разам з 1-м палком ім. Юзэфа ПІЛСУДСКАГА склаў VII брыгаду конніцы, камандаванне якой на кароткі час прыняў генерал РАМАНОВІЧ, перадаўшы Татарскі полк свайму намесніку падпалкоўніку З. КРЫЧЫНСКАМУ. З 25 красавіка 1920 г. VII брыгада ўдзельнічала ў баях на Украіне, а 7 мая таго ж года знаходзілася ў складзе войск, якія ўварваліся ў Кіеў.

Пад час контрнаступлення савецкіх войск полк адступаў, панёс вялікія страты пад Радомыслам і Старасельцамі. У ходзе баёў татарскія ўланы часта выкарыстоўваліся для разведкі, вызначаліся неаднаразова ў баях з праціўнікам. 16 мая 1920 г. Татарскі полк выводзіцца з лініі фронта і перакідваецца чыгункай да г. Плоцка для папаўнення. Полк у гэты перыяд налічваў 14 афіцэраў і 393 радавых. Адпачынак працягваўся нядоўга, таму што польска-савецкі фронт хутка наблізіўся да Плоцка. У першыя дні жніўня ўланы прыступілі да абароны берага Віслы на ўчастку ад Вышаграда да Плоцка, а 18–19 жніўня прынялі ўдзел у абароне горада, не дапускаючы туды праціўніка.

Пасля перасоўвання лініі фронта ў канцы жніўня прыйшоў загад аб расфарміраванні палка. Ён выклікаў гарачыя спрэчкі сярод афіцэраў і салдат, якія ў ходзе баёў на фронце паказалі сябе добрымі кавалерыстамі, а полк, нягледзячы на пярэсты састаў *(па рэлігійна-нацыянальнаму прызнаку)*, на іх думку, быў выдатнай баявой адзінкай. Гісторыкамі не высветлены да канца акалічнасці прыняцця рашэння аб ліквідацыі Татарскага палка. Магчыма, гэта адбылося без ведама Ю. ПІЛСУДСКАГА, па памылкова аддадзенаму загаду. Магчыма, повадам для ліквідацыі палка з'явіўся недахоп дастатковай колькасці коней, без якіх полк не мог існаваць. Праз некаторы час прыйшоў загад аб уключэнні 100 уланаў былога Татарскага палка ў запасны эскадрон 13-га палка віленскіх улан. У гэтай сітуацыі на пачатку верасня 1920 г. дэлегацыя Цэнтральнага камітэта на чале з старшынёй А. АХМАТОВІЧАМ паехала ў Варшаву да Ю. ПІЛСУДСКАГА з просьбай аб адраджэнні вайсковага падраздзялення польскіх татар. Дэлегацыю прынялі добра, растлумачылі, што ўказанне аб ліквідацыі палка памылкова выдала Міністэрства па ваенных справах. Падрабязнасці гэтага візіта нам невядомы. Але яго вынікам з'явілася ўтварэнне з салдат Татарскага палка дывізіёна пад камандаваннем Б. ХУРШОВА. У лістападзе 1920 г. дывізіён налічваў каля 400 салдат. Ён прымаў удзел у раззбраенні атрадаў генерала БУЛАК-БАЛАХОВІЧА. Пазней гэты дывізіён перажыў шэраг рэарганізацый і ў выніку дэмабілізацыі скараціўся да аднаго эскадрона. 3 ліпеня 1921 г. ён нёс службу пры польскай змешанай памежнай падкамісіі, а ў студзені 1922 г. быў уключаны ў склад 10-га палка конных стралкоў у Ланчусе, дзе на працягу некалькіх гадоў насіў яшчэ неафіцыйную назву "татарскі".

У час вайны на іншых участках фронта змагаўся самадзейны эскадрон Татарскага палка улан ім. А. АХМАТОВІЧА, які не здолеў своечасова звязацца з асноўнымі сіламі. Свой удзел у вайне закончыў у Кобрыне 13 кастрычніка 1920 г. Яго нацыянальны склад, як і ўсяго палка, быў разнародным. Татарскі полк улан ім. А. АХМАТОВІЧА перайшоў да баявых дзеянняў пад назвай "Татарскай конніцы". Салдаты гэтага палка незалежна ад нацыянальнасці называліся "татарамі". Вылучаліся сярод іншых уланаў амуніцыяй. Татарскія

уланы мелі і сваю уласную песню палка. Яна пачыналася наступнымі словамі: **"Мы, татарская конніца, маладзік і звязда. На алтар паклалі мы сваё жыццё, на алтар, на алтар..."** Быўшыя ўланы гэтага палка стварылі пра яго шмат легендаў, якія яшчэ доўгія годы перадаваліся пакаленнямі як хрысціянскіх, так і мусульманскіх воінаў.

У расійска-польскай вайне 1919–1921 гг. татары змагаліся таксама і ў іншых фарміраваннях. Так, першай батарэяй коннай артылерыі камандаваў падпалкоўнік Леон СУЛЬКЕВІЧ, узнагароджаны пасля вайны крыжом Віртуці Мілітары. Ваенным камендантам вакзала ў Любліне быў ужо згаданы намі палкоўнік М. БАЙРАШЭЎСКІ, які ў ходзе цяжкіх баёў пад Варшавай садзейнічаў хуткай перавозцы двух пяхотных дывізій з Паўднёвага фронту. У 29-м артпалку змагаўся падпалкоўнік Фуад АЛЕКСАНДРОВІЧ, першы польскі бургамістр г. Слоніма ў 1919 г.[1]

Лепшыя сыны татарскага народа ўдзельнічалі ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. Да апошніх належыць Гасан КАНАПАЦКІ *(1879–1953)*. Ён нарадзіўся ў Менску ў татарскай дваранскай сям'і. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Пецярбургскую артылерыйскую школу імя Канстанціна *(1897 г.)*. Удзельнік руска-японскай 1904–1905 і І-й сусветнай войнаў. У 1917 палкоўнік, камандаваў 69-й артылерыйскай брыгадай Заходняга фронту. У час вайны быў атручаны газамі, лячыўся і служыў у Менску ў эвакуацыйным пункце *(май-кастрычнік 1917 г.)*. 10 мая 1918 г. ў сувязі з расфарміраваннем 69-й артылерыйскай брыгады здаў грошы і дакументы Маскоўскаму абласному камісару ваенных спраў і апынуўся ў родным Менску. На той час, пасля абвяшчэння БНР, існавала Цэнтральная вайсковая камісія, якая намагалася стварыць беларускае войска. Нізкая палітычная свядомасць у самой Беларусі не спрыяла стварэнню дзяржаўных вайсковых фарміраванняў. Перашкодай былі таксама нямецкая і польская акупацыя. Беларускі полк, які размяшчаўся ў Гродне, быў раззброены пасля 27 красавіка 1919 г. У жніўні 1919 г. пасля ўступлення палякаў у Менск, на сустрэчы з беларусамі Юзаф ПІЛСУДСКІ абяцаў супольнае змаганне за незалежнасць. Акупацыя Менска з 8 жніўня 1919 г. да 11 ліпеня 1920 г. паспрыяла вылучэнню палонафільскага напрамка адбудовы Беларусі. Сярод прыхільнікаў адбудовы Беларусі з дапамогай Польшчы былі Павел АЛЕКСЯЮК, Аляксандр ПРУШЫНСКІ *(А.Гарун)*, Гасан КАНАПАЦКІ. Пасля перамоваў з імі Ю. ПІЛСУДСКІ выдаў 22.10. 1919 г. дэкрэт, якім дазваляў фарміраваць беларускае войска і зацвярджаў Беларускую вайсковую камісію. Палкоўнік Гасан КАНАПАЦКІ быў прызначаны камандуючым Беларускімі вайсковымі аддзеламі. Адначасова ён увайшоў у склад Беларускай вайсковай камісіі. У дэкрэце Ю. ПІЛСУДСКАГА гаварылася: **"... Узяўшы**

[1] Я.Гришин. Польско-литовские татары (наследники Золотой Орды). Казань, Татарское книжное издательство, 1995, сс. 88-95.

**пад увагу дэклярацыю Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны ў справе фармавання беларускага войска пад глаўным польскім камандаваньнем дзеля барацьбы з усходнім захватнікам, якая пададзена мне 28 ліпеня г.г., а таксама падобныя да гэтага заявы Менскіх Беларускіх грамадзянскіх арганізацыяў, спаўняю гэтую просьбу і загадываю фармаваньне беларускіх аддзелаў на гэтакіх асновах: беларускія аддзелы фармуюцца з ахвотнікаў. Дзеля гэтага ў кожным вярбункавым бюро на абшары Беларускіх зямель будзе адзін камісар, або афіцэр і адзін пісар-беларусы. Палкоўніка Г. Канапацкага, запрапанованага мне Беларускай Вайсковай Камісіяй, назначаю камандзірам беларускага войска. Месцам фармавання беларускага войска назначаю Слонім. Дзеля арганізацыйнай падрыхтоўчай работы назначаю Беларускую вайсковую камісію, якая ў паразуменні з камісарыятам усходніх зямель і камандаваннем Гродзенскай акругі будзе арганізоўваць беларускае войска:**

**1) даючы адпаведныя наказы палкоўніку Г. Канапацкаму і**

**2) утвараючы адпаведныя падкамісіі.**

**У склад Камісіі ўваходзяць палкоўнік Г. Канапацкі, С. Рак-Міхайлоўскі, штабс-капітан Ф. Кушаль, П. Аляксюк (старшыня), палкоўнік Д. Якубоўскі, Ю. Мурашка, А. Аўсянік, А. Прушынскі (А. Гарун), штабс-капітан А. Якубоўскі. Месцам працы Камісіі назначаю Менск. Беларускай вайсковай камісіі даручаю зарганізаваць: пэрсанальную (кваліфікацыйную) і рэгуляміновую (статутную) падкамісіі".**[1]

У "Беларускім жыцці" ад 7 лістапада 1919 г. Гасан КАНАПАЦКІ так прадстаўляў канцэпцыю будавання беларускага войска:

**" Пачаткам будаваньня арміі – галоўным чынам будзе падгатоўка кадраў, як афіцэрскіх, так і падафіцэрскіх. Для гэтага цяпер жа ўсе афіцэры арганізацый Гродзенскай і Віленскай, а таксама зарэгістраваныя ў Менску, па разглядзе іх дакументаў кваліфікацыйнай камісіяй будуць залічаны ў рэзерв і павінны праслухаць паўторныя афіцэрскія курсы і курсы беларусазнаўства, а асабліва беларускую мову і ператлумачаную камандную і вайсковую тэрміналёгію; праслухаўшы курсы, кожны з іх атрымае становішча ў фармаваным войску".**[2]

Камандаванне беларускага войска падпарадкоўвалася непасрэдна польскай ваеннай адміністрацыі. Беларуская вайсковая камісія падтрымлівала сувязь з Найвышэйшай радай БНР. Сярод насельніцтва БВК распаўсюджвала адозвы з заклікамі ўступаць у нацыянальнае войска для барацьбы за "волю, свабоду, незалежнасць і непадзельнасць нашай Бацькаўшчыны – Беларусі". Камісія перакладала на беларускую мову польскія вайсковыя статуты, выдала зборнік "Падарунак беларускаму жаўнеру". У ім былі змешчаны падрыхтаваныя пісьменнікам З. БЯДУЛЯЙ *(С.Я. Плаўнік)* "Дзесяць прыказанняў для беларускага жаўнера". Гэтыя загады альбо кодэкс паводзін беларускіх вайскоўцаў актуальна гучыць і сёння:

---

[1] Падарунак Беларускаму Жаўнеру. Выданьне Беларускай Вайсковай Камісіі, Менск, 1920, с. 2.
[2] Там жа, с. 3.

1. Калі ты праваслаўны,– ня думай, што ты расіец. Калі ты каталік,– ня думай, што ты паляк. Ведай, што ты беларус, і гавары ўсюды толькі па-беларуску, бо гэта – твая родная мова, мова тваіх бацькоў і дзядоў. Хто саромеецца сваей роднай мовы, той ня сын свайго краю, той нявольнік у чужых і здрайца свайму народу. Твой край, народ і мова ня горшыя за іншыя краі, народы і мовы;

2. Шануй гонар і волю Беларусі. Будзь шчырым абаронцам сваёй зямлі. Сьмела ваюй з тымі, хто хоча забраць тваю гасподу. Калі хочаш сам быць гаспадаром сваёй працы, дык ты павінен, як усе іншыя народы, не баючыся сьмерці, са зброяй у руках пайсьці на ворага, каторы забірае тваю зямлю. А калі пабаішся сьмерці і пусціш ворага да сябе, дык ён заваюе твой край, і ты ў яго, як парабак, пойдзеш на сьмерць, бараніць чужыя інтарэсы, як ты і дагэтуль праліваў кроў за чужых;

3. Ты павінен зразумець, што воля – гэта ня ёсць грабаваць, адбіраць чужую ўласнасць і ня слухаць разумнейшых людзей. Хто гэтак робіць – даводзіць свой край да голаду і няшчасьця, паганіць сваё імя і дапамагае няволі. Праўдзівая і разумная воля робіць у краі парадак, папраўляе дабрабыт усіх людзей, каб яны былі ўсе роўныя, сытыя і добра адукаваныя і каб карысталі самі з сваёй працы. Гэта можа быць толькі тады, калі адважна будеш ваяваць;

4. Ты павінен быць гордым і шчаслівы тым, што стаіш пад Беларускім Нацыянальным Сьцягам, што ты ўзброены дзеля таго, каб стаяць за роўнасьць Беларусі з другімі народамі зямлі. Сваю беларускую славу ты павінен бараніць да апошняй кроплі крыві;

5. Ты павінен памятаць, што тваё ўласнае шчасьце і шчасьце ўсяго Беларускага Народу – у тваіх руках. Ты павінен быць шчырым і верыць у сваю правату, у сваю сілу, зразумець, што ты ня горшы за ўсіх і маеш права жыць сваім асобным жыццём. Але гэтага кожны народ дабіваецца сілай, каторая і ёсьць у цябе;

6. Памятай, што праз доўгія вякі толькі цяпер наступіў момант, калі ты можаш называцца Беларускім жаўнерам, калі можаш класьці фундамент для новага жыцьця Беларусі і быць самім сабою. Калі цяпер прапусьціш гэты момэнт, дык потым сам праклянеш сваё гаротнае жыцьцё пад чужацкай няволяй;

7. Калі хто з ворагаў беларускай справы зьвярнецца да цябе з салодкімі словамі і скажа табе: "Будзь як і быў дагэтуль, пад цёплай апекай Расіі, ці якога іншага народу", дык ня вер яму – гэта твой найгоршы вораг. Гэта – адзін з тых, каторыя дагэтуль цябе трымалі ў няволі нацыянальнай, смакталі тваю крывавую, потную працу і ты быў гноем для яго народу. Не вер яму, бо ён хоча мець цябе за парабка і надалей. Шануй тых з чужых народаў, якія шануюць і цябе, як Беларуса;

8. Калі хто з тваіх таварышоў пачне цябе падбухторваць, каб перайсьці да варожага стану, дык твой сьвяты абавязак справядлівага чалавека, шчырага жаўнера і вернага сына Беларускай зямлі, адвярнуцца ад яго з агідай, бо ён здрайца. Здрайство – гэта самая найвялікшая подласьць і гідасьць, каторая нішчыць краі і народы. За здрайство павінна быць самая цяжкая кара;

9. Твой начальнік – гэта твой брат і таварыш па службе. Ён такі-ж салдат, як і ты. Толькі па сваёй адукацыі вайсковай ён, як спэцыяліст,

**паказывае табе, што рабіць. Калі ёсьць дысцыпліна, ёсьць парадак. Дысцыпліна і асьвядомленнасьць кожнага салдата – галоўная аснова пабеды. Нашая прыказка кажа: без правадыря войска гіне;**

**10. Кожны беларускі ваяка, ад звычайнага радавога да гэнэрала, павінен памятаць, што ён,– абаронца незалежнай Беларусі, адзін з найлепшых грамадзян роднай зямлі і займае пачэснае месца ў грамадзянстве.**[1]

Каб не дапусціць у беларускія часці ненадзейныя элементы і звесці да мінімуму мажлівыя выпадкі здрады, камісія збірала падрабязныя звесткі пра палітычнае аблічча кожнага прэтэндэнта, праводзіла адбор у адпаведнасці са спецыяльнымі патрабаваннямі: абавязковая прыналежнасць да беларускай нацыі, пэўны ўзрост, веданне афіцэрам беларускай мовы, прыхільнасць да ідэі незалежнасці Беларусі, пацверджаная рэкамендацыямі 2 вядомых дзеячоў нацыянальнага руху. Паводле звестак гісторыка М. СТАШКЕВІЧА з 485 афіцэраў і ваенных чыноўнікаў, што падалі заявы, камісія залічыла ў рэзерв 272 чалавекі. Беларуская вайсковая камісія спрабавала падпарадкаваць свайму кантролю некаторыя партызанскія атрады на тэрыторыі Беларусі, рабіла захады па вызваленні афіцэраў-беларусаў, якія былі прызваны ў Чырвоную Армію і трапілі ў польскі палон. На аснове дамоваў з польскімі вайсковымі ўладамі ў сакавіку 1920 г. адкрыліся 9-месячныя курсы ў Варшаве ў Школе падхарунжых і 3-месячныя ў Астрове (*Лолежынскае ваяводства*) для 100–120 беларусаў. Цэнтральным месцам фармавання Беларускага войска быў Слонім, а пасля Баранавічы.

Аднак намаганні Гасана КАНАПАЦКАГА і Беларускай вайсковай камісіі стварыць ва ўмовах акупацыйнага рэжыму беларускае войска не мелі сур'ёзных шансаў на поспех. Польскія ўлады, дазволіўшы для прыкрыцця сваіх анексіяніцкіх планаў існаванне Беларускай вайсковай камісіі, у сапраўднасці не жадалі стварэння ўзброеных адзінак, якія б надалі беларускай дзяржаўнасці рэальную сілу, таму фактычна пазбавілі камісію магчымасці ўплываць на іх фарміраванне. У сакавіку 1920 г. распараджэннем ваеннага міністэрства вярбоўка і адбор добраахвотнікаў былі выключаны з кампетэнцыі Беларускай вайсковай камісіі і перададзены мясцовым органам акупацыйнай адміністрацыі, якія байкатавалі гэту справу. Добраахвотны прынцып набору таксама рабіў яе маларэальнай. У выніку ўдалося скамплектаваць толькі 1 беларускую пяхотную роту. У ліпені 1920 г. пры эвакуацыі польскіх войск з Мінска ў сувязі з наступленнем Чырвонай Арміі Беларуская вайсковая камісія фактычна распалася.[2]

---

[1] Там жа, сс. 4-5.

[2] С.С.Рудовіч. Беларуская вайсковая камісія. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1, Мн., 1993, сс. 369, 370; Казбярук У.М. Светлай волі зычны звон: Алесь Гарун. Мн., 1991, сс. 16-23.

Пасля таго, як Рыжскі дагавор у 1921 г. падзеліў беларускія землі, былы камандуючы Беларускім войскам палкоўнік Гасан КАНАПАЦКІ апынуўся ў Вільні. З гэтым перыядам звязана таксама ягоная дзейнасць у беларускім руху. Гасан КАНАПАЦКІ быў намеснікам старшыні Рады старэйшых Беларускага музычна-драматычнага гуртка і сакратаром Беларускага грамадзянскага сабрання *(БГС)*. Пасля расколу ў БГС *(21.09. 1924)* быў намеснікам старшыні ва ўтворанай Часовай беларускай радзе *(да красавіка 1925)*, якая супрацоўнічала з польскімі ўладамі, супрацьстаяла Беларускаму пасольскаму клубу. Супрацоўнічаў з Францішкам АЛЯХНОВІЧАМ, Арсеніем ПАЎЛЮКЕВІЧАМ, Макарам КАСЦЕВІЧАМ *(Краўцовым)*. Быў членам таварыства "Беларуская хатка" у Вільні. На з'ездзе Заходняй Беларусі *(26–28.06. 1926 г.)*, скліканым Часовай беларускай радай, Г. КАНАПАЦКІ ўдзельнічаў як прадстаўнік таварыства "Прасвета". З 21 лістапада 1927 па 2 красавіка 1928 гг. – кіраўнік рэдакцыі часопіса "Беларускі радны". За гэты перыяд пад яго кіраўніцтвам выйшлі 4 нумары часопіса. Гасан КАНАПАЦКІ ўдзельнічаў у беларускім руху таксама падчас Другой сусветнай вайны. Быў старшынёй бацькоўскага камітэту пры Беларускай гімназіі ў Вільні, у якой вучыўся яго сын Муса. Пісаў таксама фельетоны ў "Беларускі голас" – газету, якую выдаваў Францішак АЛЯХНОВІЧ. Знаёмства з такімі беларускімі дзеячамі, як Ф. АЛЯХНОВІЧ, Ф. ЯРЭМІЧ, Б. ГРАБІНСКІ сведчыць, што ён быў актыўным дзеячам беларускага руху на Заходняй Беларусі. Ён прадстаўляў тое кола палітычных дзеячаў, якія лічылі, што ў польскай дзяржаве беларусы павінны мець свае права. У 1946 г. Г. КАНАПАЦКІ з сям'ёй выехаў у Польшчу падчас так званай "рэпатрыяцыі". Яго прыстанішчам стаў г. Быдгашч. Там дагэтуль стаіць дом, у якім жылі КАНАПАЦКІЯ. Памёр Гасан Амуратавіч КАНАПАЦКІ 11 мая 1953 г. і пахаваны далёка ад роднага горада Менска. На магілках у Быдгашчы, на камні выбіты паўмесяц і зорачка, мусульманскае выслоўе.[1]

Разбурэнні, якія прынеслі Першая сусветная і польска-савецкая войны прывялі да збяднення значнай часткі татарскіх сямей. На жаль, няма дакладных дадзеных аб стратах, панесеных самімі татарамі. Аб іх можна казаць толькі ў адносінах да паўночна-заходніх тэрыторый. Як ужо адзначалася, найбольшая колькасць татарскіх паселішчаў знаходзілася на тэрыторыі былых губерняў: Гродзенскай, Віленскай і Менскай. У перыяд з верасня 1915 г. да лютага 1918 г. менавіта там праходзіла лінія руска-германскага фронту, якая цягнулася з поўначы на поўдзень уздоўж рэк Бярэзіны і Шчары. У выніку тут былі самыя вялікія разбурэнні гарадоў, мастоў, гаспадарчых пабудоў. Шэраг паветаў абязлюдзелі ў параўнанні з 1914 г. Так, у Слонімскам павеце насельніцтва складала 55 % у

---

[1] Głogowska H. Hassan Konopacki – tatarski dowódca białoruskiego wojska. Białoruskie zeszyty historyczne. 1994, ą 1.

параўнанні з даваенным перыядам, Навагрудскім – 38 %, Лідскім – 33 %, Ашмянскім – 28 %, Баранавіцкім – 20 %. На вялікіх тэрыторыях, калісьці заселеных людзьмі, была пустыня.

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны большая частка польска-літоўска-беларускіх татар апынулася на тэрыторыі, пакінутай па Рыжскаму міру 1921 г. за Польшчай. Менавіта тут адбываліся асноўныя падзеі татарскага нацыянальнага руху.

**І. Канапацкі**



# ПАРТЫЗАНСКАЯ ВЫПРАВА ПАЛКОЎНІКА СТЭФАНА ГРАБОЎСКАГА НА БЕЛАРУСЬ У 1794 ГОДЗЕ

8 жніўня 1794 г. палкоўнік Стэфан ГРАБОЎСКІ пакінуў сваю пазіцыю пад Сорак Татарамі і па невядомых прычынах пацягнуўся на Алькенікі. Праз некалькі дзён яго бачылі ўжо паблізу Аран, адкуль гэты адважны ваяр распачаў дыверсійную выправу на Беларусь.

Палкоўнік ГРАБОЎСКІ праславіўся ў бойках з маскалямі, выкананых пад кіраўніцтвам Якуба ЯСІНСКАГА. Нарадзіўся ён у 1763 г. ад Томаша КАНАПНІЦ-ГРАБОЎСКАГА, быў унукам Стэфана, старасты вістыніцкага, патэнт на падпалкоўніка атрымаў 14 мая 1790 г. Пасля скарачэння літоўскага войска гетманам КАСАКОЎСКІМ застаўся падпалкоўнікам 7 рэгімента Польнай Булавы (*шэф – генерал артылерыі, князь К. Сапега*) і на гэтай пасадзе яго заспеў выбух інсурэкцыі 1794 г. на Літве. Прыстаўшы да паўстання, ён удзельнічаў у бітве пад Соламі, засланяючы адыход польскіх войскаў[1], а 20 ліпеня 1794 г., ужо як палкоўнік, пасланы Вяльгорскім, раптоўным маршам прабраўся да Вільна, чым выратаваў яе ад захопу маскалямі.[2]

Польскае вярхоўнае камандаванне даўно займалася планам правакацыі хваляванняў у правінцыях, анексаваных Расіяй пасля другога падзелу края. Генерал ЯСІНСКІ сваім ардынансам ад 1 чэрвеня 1794 г. склаў інструкцыю ўваходзячым за расійскі кардон. Гэтую смелую думку апраўдвалі настроі, якія панавалі ў правінцыях, адарваных Расіяй ад Польшчы.[3] Патрыёты, якія пасля другога падзелу апынуліся за кардонам, натхняліся думкай аб вызваленні іх з маскоўскага ярма. У Мінскім павеце дробная ваколічная шляхта

---

[1] Mościcki H. Dzieje porozbiorowie Litwy i Rusi. Wilno, 1913, t. 1, s. 240.

[2] Там жа, с. 246.

[3] Там жа, с. 204.

з'ехалася ў Крупец, адлеглы на 1 мілю ад Мінска, з мэтай вызначэння спосабу выгнання расіян з краю.[1] І ў іншых паветах не бракавала мужных абываццеляў, натхнёных патрыятычным духам і з запалам прагнучых пачаць паўстанне ў адарваных правінцыях.[2] К прыкладу, у чэрвені 1794 г. Ян ЗЯНЬКОВІЧ разбіў расійскі аддзел падВаўкалатамі. З рапарта палкоўніка ЛАНСКАГА вядома, што яўрэі даносілі з Навагрудка аб "неблаганадзейнасці" наступных асоб: ксяндза ХЕЛХОЎСКАГА і поштмайстра ГЕНЦАЛЯ, маючых сакрэтныя сувязі з Гродна, а таксама шляхцічаў УСАКОЎСКАГА і ГАЦІСКАГА, якія распаўсюджвалі неверагодныя звесткі аб войсках паўстанцаў. Палкоўнік ЛАНСКІ прасіў РЭПНІНА дазволіць арышт тых асоб.[3] Даходзілі да Міншчыны таксама і адозвы, выпушчаныя вярхоўным водцам КАСЦЮШКАМ. Да прыкладу, валадар Лошыцы, пад Мінскам, НЕМАРШАНСКІ, нягледзячы на разлітыя па ўсёй ваколіцы расійскія войскі, ужо ў жніўні, а потым з невялікім запазненнем атрымаў такую адозву. З данясення шамбеляна МАКАВЕЦКАГА вядома, што татары ў Навагрудку атрымалі тайны загад быць гатовымі выступіць супраць непрыяцеля, гэтак жа і ўніяцкае духавенства атрымала падобнае распараджэнне польскай улады на адпаведнае натхненне паспольства.[4]

Сувязь акупаванай правінцыі з метраполіяй была значна лягчэй, пакуль сталічнае Вільна было ў руках палякаў. Страта Вільна 12 жніўня прычынілася да таго, што дробныя партызанскія *(вылазкі)* мусілі спыніцца. Менавіта тады палкоўнік Стэфан ГРАБОЎСКІ, атрымаўшы ад генерала ВЯЛЬГОРСКАГА, які цяжка хворым ляжаў у Коўне, дазвол на пачатак дыверсійнага марша на Беларусь, вырушыў 15 жніўня з Аран на чале аддзела, складзенага з 800 жаўнераў рэгулярнага войска, 1000 ахвочых з 5 гарматамі. У склад аддзела ўваходзілі наступныя фармаванні, ацалелыя пасля бітвы пад Вільна[5]:

## ПЯХОТА

1 рэгімент Вялікай Булавы літоўскай – каля 60 жаўнераў.

7 рэгімент Польнай Булавы літоўскай *(шэф – генерал артылерыі князь Казімір САПЕГА)* – каля 400 жаўнераў. Афіцэры: капітан ГАЎЛАСІНСКІ *(Матэвуш, 14 ліпеня 1792 г. атрымаў патэнт на падпаручніка 5 пешага рэгімента князя САПЕГІ. Пад час*

---

1 Рункевич. История русской архиепископии.

2 Mościcki H. Dzieje porozbiorowie Litwy i Rusi. Wilno, 1913, t. 1, s. 208.

3 Архіў генерал-губернатара князя Рэпніна (АГГР), данясенне падпалкоўніка Ланскога ад 9 жніўня 1794 г.

4 Там жа. Ліст шэмбеляна Макавецкага з Навагрудка да Рэпніна ад 9.08.1794 г.

5 АГГР, прызнанне дызертыра Ёзафа Шыдлоўскага.

*выбуху паўстання стаў пад каманду ЯСІНСКАГА і разам з капітанам КЛЯЧКОЎСКІМ арыштаваў гетмана КАСАКОЎСКАГА, потым быў узвышаны на капітана)*, капітан КАХАНСКІ *(Ёзаф, 14 ліпеня 1792 г. атрымаў патэнт на капітана 2-га батальёна 5-га пешага палка князя САПЕГІ)*, паручнік-ад'ютант ДАРОЎСКІ *(Антон ВЯРЫГА, герб Шрэнява, з навагрудскага ваяводства, унук Францішка, генерала каронных войск, сын Ежы, генерал-ад'ютанта з Кароны ў 1776 г. Патэнт на харужага 5-га пешага палка князя К.САПЕГІ атрымаў 14 ліпеня 1792 г. Гэты полк у наступным быў перанайменаваны ў 7-мы, а ДАРОЎСКІ застаўся ў ім паручнікам-ад'ютантам)*, падпаручнікі ПАДБЯРЭЗСКІ, харужы СУЛКОЎСКІ, КРАСНІК, палкавы лекар у рангу афіцэра ЯСІНСКІ і капелан ксёндз ТХАРЖЫНІЦКІ.

## Кавалерыя

1 полк пярэдняй варты Вялікага княства Літоўскага пад камандай палкоўніка КІРКОРА.

Каманда з 4-га палка пярэдняй варты ВКЛ *(шэф – генерал Беляк)*, складзеная ў лічбе 200 чал.[1] Усяго каля 350 кавалерыстаў.

## Артылерыя

Гармат 6-ціфунтовых – 2, гармат 3-хфунтовых – 2, гармат 1,5-рафунтовых – 1, артылерыстаў каля 60, падпаручнік ЯВІЧ.

Усяго аддзел ГРАБОЎСКАГА налічваў рэгулярнага войска каля 770 чалавек. Галоўнае камандаванне састаўлялі: палкоўнік і водца аддзела Стэфан ГРАБОЎСКІ, палкоўнік ЭЙДЗЯТОВІЧ *(Ігнаці, капітан з 1789 г., патэнтам ад 19 верасня 1791 г. зрорблены маёрам 8-га рэгімента пешага палка князя Дамініка РАДЗІВІЛА, а ў вайну 1792 г. пры абароне мястэчка Зэльвы 4 ліпеня на чале пяхоты абараняў мост на Шчары. Пад час выбуху паўстання і вызвалення Вільна маёр ЭЙДЗЯТОВІЧ хутка прыспешыў са сваім аддзелам да Вільна. У бітве пад Соламі, будучы водцам 1-га палка, адважна спрыяў адыходу)*, падпалкоўнік САБЕСКІ *(Фелікс, маёр 5-га, а пазней 7-га пешага рэгіменту (шэф – князь САПЕГА) па патэнту ад 15 мая 1790 г., удзельнічаў у паўстанні ЯСІНСКАГА ў Вільна, дзе захапіў ратушу і галоўны каравул. Потым прадзьвінуўся да палкоўніка)*, маёр НЕЛЯПЕЦ *(Адам, нарадзіўся ў 1764 г., месяц служыў жаўнерам у французскім войску, 6 месяцаў капралам, 13 месяцаў сяржантам, затым 15 месяцаў карнетам у расійскім войску, 70 месяцаў падпаручнікам і 75 месяцаў паручнікам, а 15 мая 1790 г. уступіў у 7-мы*

---

[1] Korzon T. Wewnętrzne dzieje Polski za Stanisława Augusta. Wyd. 2, T. 6, с. 225-226. Аб гэтым татарскім палку і яго водцы гл.: Krzyczyński S. Generał Józef Bielak // Rocznik Tatarski. Wilno, 1932, t. 1, s. 49-95.

*пешы рэгімент ВКЛ. Патэнт на паручніка атрымаў 19 сакавіка 1791 г., на штабкапітана ў 2 батальёне 5-га пешага рэгімента князя* САПЕГІ *– 14 ліпеня 1792 г. Браў чынны ўдзел у вызваленні Вільна ў 1794 г., прычым асабіста ўзяў у няволю расійскага генерала* АРСЕН'ЕВА. *Валодаў польскім, расійскім, французскім, венгерскім і нямецкім)*, падпалкоўнік БАРАНОЎСКІ і ГАРМІДОР.

## НЕРЭГУЛЯРНАЕ (ПАВЯТОВАЕ) ВОЙСКА: ПЯХОТА

Полк пяхоты з Ковенскага павета, каля 150 чалавек. Капітан ШЫЛІТОЎСКІ.

## ЯЗДА

Полк ковенскай язды, ротмістры: УЗЛАМОВІЧ, МЯДЭКША, ЯГЕЛЕВІЧ.

Полк мярэцкай язды, ротмістры: АСТАНЕВІЧ І ЭЛЬСНЕР.

Полк уланаў, каля 300 чалавек, ротмістры: УЛАН і ЯБЛОНСКІ.

Колькасць ахвотнікаў дасягала 1000 чалавек. Галоўнае камандаванне састаўлялі: генерал-маёр Мярэцкага павета АСТАНЕВІЧ, палкоўнік Трокскага павета ЭЙДЗЯТОВІЧ *(Дамінік, стрый Ігнацыя, памёр у 1795 г.)*, палкоўнік Ковенскага павета ДЗЕРДЗЯЕЎСКІ, маёр Ковенскага павета Тадэвуш ЦЯЦЕРЫН-СКАЛЬСКІ.

Адзін з расіян, які выпадкова трапіў у польскую няволю, наступным чынам характарызуе аддзел ГРАБОЎСКАГА: **"Гэта было зборышча панічоў, сыноў шляхецкіх і простай шляхты, апранутай у сярмягі".** Некаторыя былі без абутку, некаторыя нават у лахманах, але ўсе схільныя "памерці або перамагчы"; кожны імкнуўся выказаць сваю адвагу. Аднак наогул не было ніякага парадку і субардынацыі.[1] Паўнамоцтвы генерала Вяльгорскага надыйшлі да Аран 15 жніўня і ў той жа дзень Стэфан ГРАБОЎСКІ вырушыў са сваім аддзелам у накірунку месца Іўе. З усходам сонца 19 жніўня ГРАБОЎСКІ падышоў да Іўя, забраўшы па дарозе ў няволю непрыяцельскі пастарунак у Троках у складзе 12 карабінераў. Расійскі маёр ДЭМАЙТРЭ быў вымушаны рэтыравацца са сваім аддзелам да Бакшт, адкуль, спаліўшы мост на Беразіне, прыбыў у Вішнева, дзе злучыўся з прэм'ер-маёрам ТАЎБЕРТАМ.[2]

У гэты ж час літоўскі падскарбі Міхал Клеафас АГІНСКІ з горсткай ахвотнікаў прабраўся да Дзвіны і заняў Дынабург. Выкананне неспадзяваных дыверсій аказала на непрыяцеля вялікае ўражанне. У гэтых парушэннях польскіх войск яму бачылася здзяйсненне адмысловага стратэгічнага плана. Расійскае камандаванне не ігнаравала нападу ГРАБОЎСКАГА на тылы расійскай арміі і зараз жа выслала 6 калон пад кіраўніцтвам генералаў: кн. ЦЫЦЫЯНАВА і ГЕРМАНА, а

---

[1] Рункевич. История русской архиепископии. С. 199.

[2] АГГР, данясенне Таўберта.

таксама брыгадзіраў МІЛЛЕРА, ЛАНСКОГА і ЛЬВОВА. Агульная колькасць чыннага рэгулярнага войска, пасланага супраць малага аддзела ГРАБОЎСКАГА, дасягала 18000 жаўнераў. Пасля выгнання маёра ДЭМАЙТРЭ з яго пазіцыі ў Іўі, ГРАБОЎСКІ выслаў аддзел да Мікалаева з мэтаю спаліць мост на Нёмане. Падпалкоўнік ЛАНСКІ, які стаяў у Навагрудку, спытаў у РЭПНІНА, ці трэба спаліць мост. Пакуль падыйшоў адказ, мост 9/20 жніўня быў спалены палякамі.[1]

Зранку 12/23 жніўня ГРАБОЎСКІ выступіў з Івянца ў накірунку Мінска, выслаўшы аддзел у складзе 150 вершнікаў і 500 стральцоў лясамі да мястэчка Дзераўна. Задачай таго аддзела ставілася спаленне расійскіх магазінаў у Стаўбцах. Гэты намер, аднак, не ўдаўся, паколькі падпалкоўнік ДЗЕГАСТОЙ 12/23 заняў Засулле, а падпалкоўнік ЛАНСКІ паведамляў з Атмыта, што ён са сваім палком ідзе на Камень, каб перарэзаць шлях палякам (14/25). Аднак гэта было ўжо запозна, паколькі ГРАБОЎСКІ ўжо 13/24 быў у Койданаве.[2]

Прыбыўшы ў Івянец, падпалкоўнік ЛАНСКІ пераканаўся, што абываталі мястэчка бралі ўдзел у паўстанні і шмат з іх далучылася да аддзела ГРАБОЎСКАГА. Аддзелу ГРАБОЎСКАГА таксама спрыялі земскія абываталі: к прыкладу, РАТЫНСКІ паслаў на сустрэчу аддзела 50 галоў быдла. У сваім рапарце ЛАНСКІ дапушчаў, што ГРАБОЎСКІ падзяліў свой аддзел на две партыі: адна пайшла на Бабруйск, а другая схавалася ў лясах вакол Мінска, каб у належную хвіліну ударыць на Мінск.[3] Згодна з прызнаннем жаўнера з палка Кіркора, Ёзафа ШЫДЛОЎСКАГА, Грабоўскі зведаўшы, што ў Мінску маюцца здабытыя ў Мінску палонныя і гарматы, вырашыў напасці на Мінск у дзень кірмашу, гэта значыць у нядзелю і вызваліць іх. Але даведаўшыся, што за ім спяшаецца 5000 расійскага войска і што аддзелы таго войска выходзяць насустрач яму, ГРАБОЎСКІ змяніў свой маршрут і ад Ракава рушыў на Койданава, куды прыбыў у нядзелю 13/24 жніўня.[4]

12/23 жніўня аддзел казакоў, высланы з Мінска ў складзе 6 вершнікаў для разведкі ў бок Ракава, натрапіў на пярэднюю польскую варту, з якой выканаў сутычку; адзін казак трапіў у няволю, а астатнія пяцёра памчаліся назад у Мінск, несучы трывожныя звесткі.

З атрыманнем звесткі аб надыходзячым польскім войску ў Мінску паўстала паніка ўлад і расійскага залогу, які не перавышаў 200 салдат. Расіяне, палічыўшы сябе ненадзейнымі ў Мінску, выйшлі за горад, утварылі там умацаваны абоз (*вагенбург*) і са зброяй у руцэ чакалі падыходу палякаў. Жадаючы па магчымасці затрымаць іх падыход, мінскі губернатар НЯПЛЮЕЎ у начы выслаў

[1] Там жа, данясенне падпалкоўніка Ланскога ад 9 жніўня.
[2] Там жа, данясенне Вяршыніна, Дагестоя і Ланскога.
[3] Там жа, данясенне Ланскога ад 22 жніўня з Івянца.
[4] Там жа, прызнанне дызэртыра Ёзафа Шыдлоўскага.

насустрач ім эскадрон кавалерыі. Аднак расіянам пашанцавала: а першай гадзіне начы падыйшоў да Мінска данскі полк казакоў пад камандай прэм'ер-маёра ШЧАДРОВА. Гэты полк ранкам выступіў следам за эскадронам кавалерыі. Затым і сам НЯПЛЮЕЎ, сабраўшы каля 200 жаўнераў і з 2 гарматамі, выступіў следам за войскам. Сустрэча з аддзелам ГРАБОЎСКАГА быццам бы мела месца ў адлегласці 10 вёрстаў ад горада. Завязалася страляніна. Згодна з расійскімі крыніцамі, палякі былі напалоханы, сустрэўшы адпор з боку расійскіх войск, і нечакана павярнулі ў бок Койданава.[1] Можна дапусціць, што гэта не быў увесь аддзел ГРАБОЎСКАГА, а толькі невялікая партыя, паколькі ў той жа дзень 13/24 жніўня ГРАБОЎСКІ быў ужо ў Койданаве і ўначы з 24 на 25 вырушыў на Самахвалавічы і Дудзічы.[2]

Зранку 14/25 жніўня палкоўнік данскіх казакоў ВЯРШЫНІН злучыўся з прэм'ер-маёрам растоўскага палка ПЛЯХАНАВЫМ у Койданаве. З рапарта апошняга вядома, што аддзел паручніка МІКУЛІНА з растоўскага палка быў рассеяны палякамі, прычым 4-х расійскіх жаўнераў узялі ў няволю, а койданаўскія мяшчане паграбілі 4 вазы з амуніцыяй. Польскі аддзел у складзе каля 100 чалавек адступаўшы на Рубяжэвічы, быў аднак дагнаны ВЯРШЫНІНЫМ і схаваўся ў лясах; трое параненых трапілі ў няволю. 15/26 ВЯРШЫНІН і ПЛЯХАНАЎ прыбылі да Крычына на шляху ў Мінск, пакінуўшы ГРАБОЎСКАГА ў спакоі, які са сваім аддзелам пайшоў праз Самахвалавічы і Дудзічы на Пухавічы.[3]

З прыведзеных вышэй фактаў вынікае, што ГРАБОЎСКІ лёгка мог заняць Мінск, аднак ён меў іншую мэту, а менавіта: праследваць на Беларусь і выклікаць там парушэнне сярод мясцовага люду. Такая думка не была новай. З такім жа самым праектам да генерала ЯСІНСКАГА звяртаўся Міхал Клеафас АГІНСКІ, запэўніваючы, што яму дастаткова ўварвацца на Беларусь у маёнткі АГІНСКІХ, каб схіліць да паўстання шмат сялян, даўшы ім вольнасць.[4]

Там чыніліся практычныя прыгатаванні да ўзрушэння. Адміністратарамі, а потым уласнікамі маёнткаў АГІНСКІХ Смілавічы і Дукоры, былі Станіслаў МАНЮШКА, суддзя вайсковы, і Францішак АШТОРП, палкоўнік войск ВКЛ.

Відаць, не без падстаў яны былі абвінавачаны камандай расійскіх войск у **"падрыхтоўцы ручной броні, гармат, куль, олава, пораху і г.д., у збіранні рэкрутаў, паразуменні з камандай войск ВКЛ і ў сачэнні за расійскім войскам"**.[5] ГРАБОЎСКІ скіраваў свой аддзел у тамтэйшы бок, але хутка значныя сілы расійскіх войск, скіраваныя рознымі

---

1 Рункевич. История русской архиепископии. С. 200.
2 АГГР, данясенне Няплюева Рэпніну.
3 Там жа, данясенне Вяршыніна.
4 Ogiński M.K. Pamiętniki. T. 1, s. 321.
5 Дзяржаўны архіў старадаўніх актаў (ДАСА), кн. 11883, с. 1-2.

дарогамі, каб схапіць невялікі аддзел ГРАБОЎСКАГА, не дазволілі таму затрымацца на месцы больш дня, а затым знікла і ўсялякая надзея ініцыіраваць мясцовыя хваляванні.

У Пухавічах ГРАБОЎСКІ склікаў ваенную нараду, на якой усе падначаленыя яму начальнікі выказаліся за зварот да краю. Далейшыя рухі аддзела ГРАБОЎСКАГА мелі мэтай утойванне свайго маршу, прычым па дарозе ён разаслаў пракламацыю з абвяшчэннем аб падыходзе вялікіх польскіх сіл.[1] Сцягванне расійскіх войск адбылося хутка. Палкоўнік МІЛЛЕР прыбыў у Мінск 13/24 жніўня з артылерыяй і данскім палком казакоў пад камандай прэм'ер-маёра ІЛАВАЙСКАГА. Хутка ў Мінск надыйшоў вялікі аддзел расійскіх войск пад камандай генерала брыгады кн. ЦЫЦЫЯНАВА.[2]

Генерал НЯПЛЮЕЎ выслаў палкоўніка МІЛЛЕРА ў бок Барысава, каб не дазволіць ГРАБОЎСКАМУ адыйсці на поўнач. Князь ЦЫЦЫЯНАЎ атрымаў загад наступаць на ГРАБОЎСКАГА. 17/28 НЯПЛЮЕЎ атрымаў рапарт ад палкоўніка МІЛЛЕРА аб тым, што палякі маюць намер пайсці на Барысаў, дзе абывацель КОРСАК быццам бы будуе ў сакрэце мост. Гэтая звестка была фальшывай: 17/28 ГРАБОЎСКІ быў у Пухавічах, дзе яго ар'ергард меў сутычку з казакамі. Польскае войска прайшло праз Свіслач, а затым мост быў спалены.[3] Далейшы маршрут аддзела ГРАБОЎСКАГА праходзіў праз Лапічы да месца Свіслач. 18/29 ГРАБОЎСКІ быў у Свіслачы, а ЦЫЦЫЯНАЎ – у Скрылях.

Аддзел генерал-маёра кн. ЦЫЦЫЯНАВА складаўся з наступных палкоў:

## Кавалерыя

Інгермландскі полк карабінераў.

Полк казакоў ВЯРШЫНІНА. Разам 448 чалавек.

## Пяхота

Рэвельскі полк мушкецёраў.

Санкт-Пецярбургскі полк грэнадзёраў.

Артылерыстаў пры 10 гарматах. Разам 1945 чалавек. Усіх 2393 чалавека. Гармат было 17 штук. Акрамя таго, у авангардзе ішоў секунд-маёр ПЛЯХАНАЎ, які 19/30 жніўня стаў у Лапічах.[4]

Уначы з 18 на 19/30 палякі занялі Бабруйск; бабруйская залога ў складзе рэштак Смаленскага палка мушкецёраў зляжыла бронь, а карнет ЗАХАРАШЭВІЧ трапіў у няволю. ЦЫЦЫЯНАЎ аднак

---

[1] Ateneum. T. 1, s. 84.

[2] АГГР, рапарт Няплюева кн. Рэпніну; Рункевич. История русской архиепископии. С. 201.

[3] АГГР, данясенне палкоўніка Міллера ад 17-28 жніўня, данясенне Пляханава ад 19 жніўня.

[4] Там жа, данясенне Пляханава ад 19 жніўня.

не змог дагнаць ГРАБОЎСКАГА і прасіў РЭПНІНА пасунуць ЛАНСКОГА бліжэй да Грозава.[1] Палкоўнік ГРАБОЎСКІ, пакінуўшы Бабруйск, пацягнуўся па слуцкаму шляху і 1 верасня стаў у Глуску. Тут яго дагнаў прэм'ер-маёр і кавалер БАРКЛАЙ-ДЭ-ТОЛІ з аддзела ЦЫЦЫЯНАВА, які наступным чынам апісаў бітву з аддзелам ГРАБОЎСКАГА.

**"А чацьвертай гадзіне зранку паведаміў Барклай-дэ-Толі Цыцыянаву, што ўкрочыў у Глуск і стаў перад ворагам, які быў на правым берагу Пцічы і меў на левым флангу мястэчка, а перад фронтам мост і тры млыны пры ім. Непрыяцель быў у абозе, але гатовы выступіць. Сустрэў мяне кананадай, на якую я адказаў грматай. Палякі спалілі мост з адным млыном і пачалі адступаць. Тым часам казакі, абстрэльваючы непрыяцеля, шукалі брод на рацэ. Чакаўшы за ім, Грабоўскі рушыў з месца, а як толькі парушыўся ён, так секунд-маёр Вяршынін кінуўся са сваімі казакамі ў брод, секунд-маёр Пляханаў следам за ім на падмогу, а рота санктпецярбургскіх грэнадзёраў пад камандай капітана Ляцюхіна пайшла прама па пылаючаму масту крок за крокам за адступаўшым непрыяцелем. Эскадрон карабінераў пераправіўся ўброд праз раку з гарматай і ўдарыў на палякаў. Я паспеў у той самы момант, калі непрыяцель сабраўся ўдарыць на нас, сабраўшы свае сілы, двума гарматнымі стрэламі сваімі прымусіў палякаў да адступлення. Забіта непрыяцеля даволі многа, у няволю ўзята 50 чалавек. Адбіта нашых палонных: паручнік Яўневіч, карнет Захарашэвіч і яшчэ 6 чалавек. Я сам праследваў непрыяцеля да вёскі Крываносы".[2]**

Бітва пад Глускам прымусіла ГРАБОЎСКАГА павярнуць з слуцкага тракта і накіравацца на поўдзень да мястэчка Любань. ГРАБОЎСКІ лічыў вынік той бітвы шчаслівым. ЦЫЦЫЯНАЎ страціў нават надзею дагнаць ГРАБОЎСКАГА і раіў у лісце да РЭПНІНА спаліць масты па дарозе на Клецк, бо ў праціўным выпадку яму не давядзецца схапіць аддзел ГРАБОЎСКАГА. У тым жа самым лісце, датаваным 23 жніўня/3 верасня ў Глуску, ЦЫЦЫЯНАЎ не раіў пісаць ГРАБОЎСКАМУ аб тым, што АГІНСКІ капітуляваў, паколькі вельмі прагнуў разбіць ГРАБОЎСКАГА і атрымаць узнагароду за гэтулькі панесеныя працы.[3]

22 жніўня/2 верасня ГРАБОЎСКІ стаў на рацэ Арэса супраць мястэчка Любань: багністыя берагі перашкодзілі хуткай яе пераправе. Толькі на працягу 23 жніўня/3 верасня ГРАБОЎСКАМУ ўдалося пераправіць праз раку 500 чалавек са свайго 7-га палка пяхоты, гарматы і частку рэгулярнай конніцы. Рэштка яго аддзела засталася на другім баку ракі. Генерал ЦЫЦЫЯНАЎ абыйшоў польскае войска і, пераправіўшыся праз раку пад мястэчкам, заступіў ГРАБОЎСКАМУ адзінаю дарогу.

24 жніўня/4 верасня пачаўся бой невялікага партызанскага аддзела ГРАБОЎСКАГА са значна мацнейшым ворагам. Польская пя-

---

[1] Там жа, ліст Цыцыянава Рэпніну з Глуска ад 23.08 і 3.09.

[2] Там жа, рапарт прэм'ер-маёра Барклай-дэ-Толі да кн. Цыцыянава з вёскі Крываносы ад 22.08./ 2.09.

[3] Там жа, ліст кн. Цыцыянава да Рэпніна ад 23.08. / 3.09.

хота колькасцю ў 500 чалавек атакавала маскалей. Бойка была надта няроўнай і палякі мусілі адступіць у бок мястэчка Любань, вытрымаўшы з поспехам 4 атакі праціўніка і не страціўшы пры тым ніводнай гарматы. Бой цягнуўся цэлы дзень, але расіяне не здолелі рассеяць польскай пяхоты. На жаль міліцыя, якая засталася на другім баку ракі, здалася другому непрыяцельскаму аддзелу. ГРАБОЎСКІ жа мусіў падумаць аб ганаровай капітуляцыі свайго аддзела. Перад гэтым частка кавалерыі, якая была на гэтым баку ракі, пайшла сцежкамі праз балота да Польшчы. З улікам страты пяхоты ГРАБОЎСКІ са сваім штабам быў вымушаны прыняць ахвераваную ворагам капітуляцыю. Капітуляцыя была прынята з заходам сонца 4 верасня. Адзін з пунктаў капітуляцыі тычыўся таксама і міліцыі, якая паддалася на другім баку ракі, а таксама і тых жаўнераў кавалерыі, якія самастойна трапілі ў рукі непрыяцеля.[1] У той жа дзень ЦЫЦЫЯНАЎ даносіў РЭПНІНУ аб сваёй перамозе наступнае: **"Нарэшце Бог падараваў нам перамогу. Паблізу вёскі (?) Любань непрыяцель назваўся вязнем. Грабоўскі здаўся са сваім штабам. Мы здабылі 2 шасціфунтовыя гарматы і адну 3-фунтовую гармату. Страты непрыяцеля досыць значныя, з нашага боку забіта 136 жаўнераў, паранены: секунд-маёр Галавін з смаленскага драгунскага палка, палкоўнік Вяршынін і яшчэ некалькі афіцэраў".**[2]

Такім чынам, у руку непрыяцеля трапіла 61 чалавек афіцэрскага рангу, 509 чалавек з кавалерыі і 404 чалавека з пяхоты, у тым ліку 70 параненых, а ўсяго 1003 жаўнераў. Здабычай ворага апынулася 503 коней, 5 гармат, 317 карабінаў, 36 пісталетаў, 112 шабель, 15865 патронаў, а таксама 2687 рублей і 10 кап. Генерал ЦЫЦЫЯНАЎ атрымаў у якасці ўзнагароды 1224 душ падданых з маёнткаў, канфіскаваных у Ксаверыя ЗЯНЬКОВІЧА.[3]

Аднак расіяне не прытрымаліся ўмоў капітуляцыі: пасля дастаўкі жаўнераў у Смаленск іх разаслалі па розных гарнізонах для службы, а афіцэраў жа аддалі пад суд (*у Віленскім дзяржаўным архіве маецца нататка без подпісу і даты, праўдападобна ад 3 жніўня 1794 г., напісаная па-руску для невядомай асобы. Тут маецца цікавая характарыстыка татар-вайскоўцаў, а таксама згадка аб намеры расіян прыняць у Навагрудку султана Менглі-Гірэя і нахілення быўшых там у няволі ротмістра Улана, намесніка Бараноўскага і 7 таварышаў згадзіцца быць у свіце султана. Аўтар нататкі лічыць неабходным сфарміраваць татарскую харугву пад камандай султана*).[4]

---

[1] Paszkowski F. Dzieje Tadeusza Kościuszki. Kraków, 1872 (Pamiętnik S.Grabowskiego). S. 13.

[2] АГГР, данясенне Цыцыянава Рэпніну.

[3] Mościcki H. Dzieje porozbiorowie Litwy i Rusi. Wilno, 1913, t. 1, s. 301.

[4] ДАСА, збор Энгельгардта, № 243.

Ніжэй падаю імянны спіс афіцэраў, узятых у няволю ў бітве пад Любанню (*гэта няпоўны спіс: у ім адсутнічаюць між іншым каманды з татарскага палка Беляка. У 1795 г. Генеральша Белякова прасіла ў караля Станіслава-Аўгуста пратэкцыі перад Рэпніным у справе вызвалення маёра Мустафы Ахматовіча і харужага Яна Крычэўскага "забраных у няволю пад Любанню кн. Цыцыянавым, быўшых у камандзе С.Грабоўскага"*).[1]

## РЭГУЛЯРНАЕ ВОЙСКА

Палкоўнік і водца аддзела Стэфан ГРАБОЎСКІ;
Палкоўнік ЭЙДЗЯТОВІЧ;
Падпалкоўнік Фелікс САБЕСКІ;
Маёр Адам Неляпец;

**З 7-га пяхотнага палка:**

капітан Матэуш ГАЎЛАСІНСКІ;
Капітан КАХАНЬСКІ;
Паручнік і ад'ютант Антон ДАРОЎСКІ;
Падпаручнік ПАДБЯРЭЗСКІ;
Харужы СУЛКОЎСКІ, КРАСНІК;
Палкавы лекар афіцэрскага рангу ЯСІНСКІ;
Палкавы капелан ксёндз ТХОРЖЫНІЦКІ;

**З артылерыі:**

падпаручнік ЯВІЧ;

**З 1-га коннага палка:**

ротмістры КРЫЧЫНСКІ, АХМАТОВІЧ;
Паручнікі Абрагім КРЫЧЫНСКІ, Самуэль КРЫЧЫНСКІ;
Харужыя БЯЛЬКОЎСКІ (*ад'ютант*), БЯРЭЦКІ, САПОЦЬКА, ЛІБЕРАЦКІ, ТАЛЬКОЎСКІ;
Палкавы лекар афіцэрскага рангу НІССІ;
Палкавы капелан ксёндз ПІЖЭВОСКІ;
Ад'ютанты палкоўніка і водца аддзела ГРАБОЎСКАГА ў рангу паручнікаў:
ПАЎЛОВІЧ – з рэгулярнага войска;
ПАЎЛОВІЧ – з павятовых войск;
ТУРЧЫНСКІ – з павятовых войск;
ВЫСОЦКІ – з Віленскага павета;

Падхаружыя 7-га палка пяхоты з афіцэрскім рангам:

ПЯСЕЦКІ, ТАМАШЭЎСКІ, ЛАСКАРЫС;

Намеснікі 1-га коннага палка афіцэрскага рангу:

---

1 Mościcki H. Generał Jasiński i Powstanie Kościuszkowskie. Warszawa, 1917, s. 388.

Сапоцька, Юшыньскі, Сулкевіч, Аляксандр Улан, Самуэль Улан;

## Павятовае войска

Генерал-маёр Мярэцкага павета Астаневіч;
Палкоўнік, водца Ковескага павета Завіша;
Палкоўнік Трокскага павета Дамінік Эйдзятовіч;
Палкоўнік Ковенскага павета Дзердзяеўскі;
Маёр Ковенскага павета Тадэвуш Цяцерын-Скальскі;

**З ковенскага коннага палка:**

Ротмістры Узламовіч, Мядзекша, Ягелевіч;
Паручнікі Даўят, Ратомскі;
Харужыя Хрыстоўскі, Андруновіч;

**З пешага ковенскага палка:**

Капітан Шылітоўскі;
Паручнік Карызна;
Падпаручнік Заневіч;
Харужы і ад'ютант Хадашэвіч;

**З коннага мярэцкага палка:**

ротмістры Астаневіч, Эльснер;
Паручнік і ад'ютант Эймонт;

**З палка Улана:**

Ротмістры Ёзаф Улан, Ян Хрыстафор Яблонскі;
Паручнік Халецкі;
Харужыя Абрагімовіч, Ясінскі.

**Спіс заняволеных польскіх жаўнераў і коней:**

Кавалерыя: намеснікаў – 15. Пяхоты: унтэр-афіцэраў таварышаў – 47 і капралаў – 32, падлекараў – 1, падлекараў – 2, унтэрафіцэраў барабаншчыкаў – 4 і капралаў – 45, шараговых – 312, трубачоў – 2, стральцоў – 14, шараговых – 393, Рэчы Паспалітай – 37, кавалёў – 3, прафос – 1, сядзельнікаў – 2, яўрэяўпагоншчыкаў – 2, канавалаў – 1

---

**Разам – 913**

Акрамя таго параненых, конных і пешых:
Унтэр-афіцэраў і капралаў – 6;
Шараговых – 84

---

**Разам – 1003**

